

Наваградак. Ліпень 2000. Фота: Віктар Сядых (Мінск)


## SUMMARY

**AUTOGRAPH** ***"Sustainable Farmstead of the XXI Century"*** **– this is the title given by Walery Dranchuk, the publisher and chief editor of the "Belavezhskaya Pushcha" magazine to his latest project. Last summer he, together with the non-governmental organization "Belarusian Green Cross," organized a session of the "Green Printing and Landscape School". The event was held amidst the scenery of a detached private farm where the children rested and learnt the craft of publishing a newspaper. Their first creative efforts are presented in this issue on pp. 3, 18-23.**

CASSANDRA'S CRY *"The Belavezhskaya Pushcha" has never been protected"* – maintains a notable Belarusian publicist Anatol Kazlovich. The myth that this primeval forest is a cherished and protected nature reserve has been used as a cover for the ignoble aims of the "elite" permitting it to loot the reserve's riches. *"The new ruler has come to suppress the Belarusian Rebirth and has robbed the nation of its flag, state emblem, language and the Belavezhskaya Pushcha"* – writers the author, pp. 6,7.

**I DARE SAY! The environmental minister Mikhail Rusy tried to openly refute the right exposure by the public of the detrimental pressure exerted on protected sites by economic activities. Journalist Walery Dranchuk cites facts which prove beyond any doubt that the minister's assertion is groundless and that government officials are fully dependent on the authoritarian regime built in our country by A. Lukashenka, pp. 6,7.**

HOMO SAPIENS *"Nobody can stamp out what you find beautiful"* – maintains a Lithuanian photo artist Rimantas Dykhavichus, who created series of photographs entitled "Flowers among flowers" and "An eternal spring-head", pp. 10,11.

**TRAVELS** ***"A nostalgic parting with the millenium on the way forward to the future"*** **– this is how Walery Dranchuk regards his lyrical notes which he made when travelling on a bicycle across Poland's provinces. "*My goal was to see and understand the neighboring country from out the depth of its landscapes*", - writes the journalist. – "*For seven days I was alone, face-to-face with the sky, sun, favorable wind and the road*", pp. 13-15, 28-29.**

HERITAGE The farmstead and the garden of the famous selectionist and enlightener Ivan Sikora are being restored in the Maly Alashki village in the north of Belarus. On his plot he approbated hundreds of varieties of apples, plums and pears. In September the fellow-villagers celebrated the 115th anniversary of the gardener's birth, p. 26.






З любоўю да ўлоння

# Белавежская Пушча



Спецвыпуск
2000 год -- Год вады і лесу



№ 3 (24) 2000

Аўтарская газета Валерыя Дранчука

Дзяды
Аўтограф
Лужок
Вандроўка
Акт-арт
Анталогія
Спадчына
Спеў

Беларускае прыродалюбнае асветна-публіцыстычнае выданне



Magazine edited and published by Valery Dranchuk

Белавежская Пушча

BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA
Magazine edited and published by Valery Dranchuk
**Motto: With a love for Mother Nature**
Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16,
Phone 8217 236-50-76, fax 220-23-53
E-mail: NPpushcha@irex.minsk.by

©прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета **год выдання шосты** пасведчанне аб рэгістрацыіі №125 ад 27.06.96

**Заснавальнік і рэдактар** Валеры Дранчук

**Макет, вёрстка** Валеры Дранчук, **карэктура** Уладзя Ляская, **summary** Уладзімір Андрыянаў

**Адрас для допісаў** 220088, Мінск, Іванаўская, 38-16 тэл.236-50-76, факс 220-23-53. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак

Падпісана ў друк 31.10.2000. Фармат 60х84 1/8. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт дамоўны. Замова № 2766. Надрукавана ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку" (220013, Мінск, праспект Францішка Скарыны, 79)

ПРАЧЫТАЎ – ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ «Б-П»

**3**
**Зялёныя студыі**
Газета ў газеце

**4**
**Памяні, Божа...**
Дзяды

**6**
**Восень патрыярха**
Беларускае люстэрка

**8**
**Сёння з Вамі**
Аргументы Міхаіла Русага

**10**
**Вечная крыніца**
Акт-арт

**13**
**На ровары ў Польшчу**
Вандроўка

**18**
**Станем у жывы ланцуг**
Ліст ад Арцёма Назаранкі

**23**
**Святло тваёй душы**
Фотаконкурс

**24**
**Белавежская пушча**
Песня

**28**
**Дарога ў сад**
Спадчына Івана Сікоры

# Слова рэдактара

Шматлікія перыёдыкі маюць за добрае правіла выкладваць нам сякія-такія звесткі «Дзе быць». Не прымінаючы зазірнуць у гэтую небагатую сэкцыю, штораз лаўлю сябе на думцы: а куды б хацела, жадала мая душа? І нязменна бачу які-небудзь краявід. З дрэвамі, пагоркамі, рэчкай ці возерам. Або лясную паляну, поўную цішыні, дарогу, якая вядзе пад гару. Дык можа, на гэтай дарозе і трэба мне быць. Узысці на гару і ўбачыць…

Прыканцы верасня мне закарцела паехаць у Белавежскую пушчу. З апошняй сустрэчы прайшло трохі часу, а тут падаспела восень, ціхія ясныя дні — падобна, што «бабіна лета».

Рушыў на ровары. З Менску да Берасця падвёз цягнік, а ўжо з Берасця да Камянюкаў — гэта прыкладна паўсотні вёрстаў — заўзята педаляваў.

Файная атрымалася пілігрымка. Поўная самастойнасць, ні чэргаў, ні штурханіны ў аўтобусе. Стужка дарогі, дрэвы і неба. Мінулася шмат мясцовасцяў, вёсачак ды мястэчкаў. З ясным месячыкам прыехаў у Пушчу.

Прыехаў і зразумеў — тут менавіта і трэба было мне быць. Не скажу дакладна, колькі лясной цішыні пераслухаў за тыя дні, яна і цяпер са мной. Як пачутая чароўная музыка, як прачытаны верш, убачаная карціна. Так лёгка ўмясцілася ў сэрца і думкі, з ёю прыгожа й лагодна жыць далей.

Газета «Белавежская пушча» — лаўрэат Еўрапейскай прэміі Генры Форда «За захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя» 1999

Вядома ж, кожны вырашае сам, дзе яму быць. Змяніць гарадскі асфальт на лясную сцяжыну або філярманічную залю — на ўлонне купалавай Вязынкі. Варыянтаў — мноства.



Вось я і прапаную распачаць рубрыку ў нашым квартальніку — д з е в а р т а б ы ц ь? Чакаем падказак. Ды каб жа паспець у чарговы нумар -- снежаньска-перадкалядны.

Да сустрэчы там, дзе варта быць!

**Валеры Дранчук**

Літара «П», скарыстаная ў малюнку назвы газеты, ўзята з кнігі «Маляўнічая Расія. Літоўскае і Беларускае Палессе», 1882









З любасцю да ўлоння

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Газета **тваіго і майго** наваколля * Выпуск **1**

# *Зялёныя студыі* на хутары Гавязна

Рубрыка *«Аўтограф»* (газета ў газеце) даўно не паяўлялася на старонках «Белавежскай пушчы». Нагадаем, што ў ёй адмыслова і поўна можна прадставіць тую або іншую мясціну, помнік прыроды, экалагічны праект, аб'ект культурнай спадчыны, кірунак прыродаахоўнай дзейнасці і г.д. Магчымасць рэпрэзэнтавацца такім чынам, скарыстаўшыся прапановай рэдакцыі, маюць перад усім службы прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, установы асветы і выхавання, грамадскія арганізацыі, фірмы ды проста энтузіясты, прыватныя асобы.



В. Дранчук. Малюнак з нататніка. 1984

Гэты раз газета «Белавежская пушча» з радасцю і хваляваннем прэзентуе чытачам свой праект *«Устойлівы хутар у цэнтры Еўропы. Школа зялёнага выдавецтва і ландшафта»*. Ён стаўся часткай маладзёжнага фестывалю *«У Беларусі мы жывём»*, які шырока і чынна ладзіла гэтым летам грамадская арганізацыя *«Беларускі зялёны крыж»*. Вынікам супольных намаганняў (менавіта — двух пяцідзённых экспедыцый, у якіх брала ўдзел вучнёўская і студэнцкая моладзь) і з'явілася дэбют-публікацыя з кароткіх пісьмовых водгукаў. Слухачы «Зялёнай школы» жылі на «ўстойлівым хутары» (стаўбцоўска-нясвіжскае памежжа заходняй часткі Міншчыны), начавалі ў намётах, гатавалі ежу на вогнішчы, назіралі прыроду, вандравалі ў ваколіцах і ладзілі дэбюты ў творчых студыях…

Іхнія замалёўкі — гэта першая спроба экалагічных уражанняў у, мовіць так, рэдакцыйным варыянце. Арганізатары праекту не ставілі за мэту знайсці сабе адмыслова таленавітых аўтараў. Гэта былі хутчэй звычайныя дзеці, якія пажадалі крыху пажыць на хутары і напісаць затым колькі слоў у газету. Аднак, што нечакана — шмат якія дэбюты падалі неблагую надзею, бо засведчылі, што аўтары ўмеюць працаваць творча. Якім будзе вынік, пакажа час, супрацоўніцтва з выданнямі і праца над сабой.

Працяг праекта «Зялёных студый» на хутары Гавязна мяркуецца і надалей. З гэтага моманту рэдакцыя «БП» абвяшчае прыём заявак. Хто жадае далучыцца, можа хоць сёння брацца за справу: уважліва прачытаць наш выпуск, даслаць заяўку, прыкласці які-небудзь твор на тэму прыроды (замалёўка, верш, роздум, фота, малюнак і інш.) ды напісаць колькі слоў пра сябе.

Звязацца можна не толькі з рэдакцыяй, але і з грамадскай арганізацыяй *«Беларускі зялёны крыж»*. Падаём звесткі для кантактаў: *Мінск, 220007, аб.скрынка174. Тэл.:* ***227-57-80.***

гл. старонкі **18--23**

***Гісторыя хутара Гавязна сягае глыбока ў стагоддзі і перахоўвае мноства падзей, якія тут адбываліся. Гісторыкі сыходзяцца на тым, што гэтая мясціна была адвеку заможна абжытай, што круцілася тут кола вялікага вадзяка, які, магчыма, згарэў ад пажару, пазней працаваў тут бровар — вінаробны заводзік. Да зшчальнай меліярацыі савецкага часу доўга не зарастала сажалка — адна з памятак тых дзён, а ліпы, што ацалелі, памятаюць гаспадароў, чые магілы ўжо наўрад ці адшукаеш на кладах. Захаваўся план зямельнага надзелу ад 1936 года, які выразна засведчыў і назву фальварка-хутара, і назву мястэчка — Гавязна (Howezna), перайменаванага пазней у сённяшні Вішнявец. Варта ўсялякага шкадавання з выпадку замены адвечнай назвы старажытнага мястэчка, бо, як вядома, гістарычная назва трымае ландшафт і жывіць генетычную памяць нашчадкаў.***


PLAN
HOWEZNA

# Памяні, Божа, хто ў яме, Паздароў тым, хто з намі!

### Абрадавае кола беларускага календара паварочвае на Асяніны

**А**сяніны — восеньскія Дзяды.
**Ш**тогадовыя памінанні продкаў у сваім родзе і сям'і.
**Н**айгалоўныя ў цыкле памінальных дзён года.
**У**шаноўваюцца ды ўдзячваюцца здабыткі,
ладзіцца дзядоўскі вечар, ухваляюцца
добрыя справы членаў роду.
**З**апальваецца свечка, прамаўляецца малітва.
**В**ыказваюцца зычэнні й прашэнні.
**Д**а продкаў, да Бога.
**С**ямейная памінальная дзея ёсць прыкладам і напамінам
дзецям пра свой род, яго паходжанне, славу.
**Ш**то ўсе мы -- род беларускі.
**Ш**то жыццё ў чалавека кароткае, Радзіма вечная.

Паводле: *Уладзімір Сысоў. З крыніц спрадвечных.*

* * *

Прыхадзіце,
дзяды-радзіцелі,
І старыя, і малыя,
Хто на гэтай сялібе
жываў,
Хлеба-солі ядаў,
Прыхадзіце,
дзяды-радзіцелі,
К свайму сталу,
к нашаму прыпечку.
Хлеба-солі засылайце,
Каб было чым душы
памінаць,
**Год ад году,**
**Век ад веку!**

**Воблік Радзімы**

**Бацькаўшчыны**

**Беларусі**

пасадзім дрэва
зберажом лясы і балоты
дагледзім дарогі і тракты
адновім старыя сядзібы
ачысцім крыніцы
перахаваем памяць
і будзем рабіць
кожны сваё

**ствараць**
**парадкаваць**
**ладаваць**

**Паміну *душа* просіць...**









# «Адпад вытворчасці» ў прыродзе

### *На двары лістапад — змена станаў і выглядаў, час зміранння, журбы і спакою*

***Здаецца, толькі ўчора пахучы зялёны лісточак даверліва хінуўся насустрач вясноваму сонцу, а сёння ўжо яго чакае зусім іншае выпрабаванне: развітацца з роднай галінкай, адарвацца і ляцець, і падаць - у першы і апошні раз — на траву, на ралля, на іглiцу... Восеньскі вецер такі ўпарты --прыспяшае, цярэбіць лістоту. Прыйшла журботная часіна. То павольна, то ў шалёнай віхуры круціцца і падае долу залатое і аранжавае, жоўтае і барвовае лісце дрэў, хмызнякоў.***

Пасля золата і барваў кроны дрэў набываюць новую выразнасць і маляўнічасць. Напярэдадні халады. Яшчэ крыху — і стажок, што віднеецца ўдалечы, прымерае снежную шапку.

Лістапад — характэрная з'ява прыроды ў нашай старонцы. Іншая справа ў вільготных тропіках, дзе большасць дрэў зелянеюць «вечна», як нашыя сосны і елкі. Аднак памылкова думаць, што гэтае «вечна» абсалютнае. Варта ўспомніць, які тоўстым пластом іглiцы ўсыпана зямля ў сасняках і ельніках нашых лясоў. Паасобныя хваінкі жывуць ад двух да дзесяці гадоў. Іхняе ападанне не так відавочнае, ападае толькі частка іголкападобнага лісця. Менавіта іголкавая форма, васковы слой, глыбока схаваныя вусціцы хваінак даюць магчымасць адолець холад і страшэнную зімовую засуху соснам, елкам і ялдоўцам. Калі вільгаць становіцца недаступнаю для расліны, робяцца небяспечнымі для яе і выдаткі на выпарэнне. Ахвяруючы фотасінтэтычным і выпаравальным апаратам — лістотай, дуб або клён ратоўваюць гэтым самым сваё жыццё. Дый не толькі смага падсцерагае лісцёвыя дрэвы ў зімовую сцюжу. Шмат хто памятае, колькі дрэў было паламана ўвосень 1973 года, калі на зялёны лес нечакана абрынуўся снег.

Вымушаныя штогод скідаць лісце, дрэвы ператвараюць іх у склад непатрэбных і нават шкодных для расліны «адпадаў вытворчасці». Яшчэ задоўга да ападання адбываецца адток часткі пажыўных рэчываў з лісця, разбураецца зялёны хларафіл, што маскаваў летам жоўтыя ксантафілы і барвовыя антацыяны, — і цяпер лес набывае яркую асеннюю афарбоўку. Адначасова паміж галінкай і лісткам ідзе працэс адмысловага падзелу назапашаных рэчываў і прадуктаў; нарэшце, надыходзіць момант, калі дрэва і ліст падзяліліся цалкам, сувязь паміж імі аслабла і разрыў непазбежны, — ліст ападае. Нават ва ўмовах аранжарэі ўдаецца ненадоўга аддаліць пачатак лістапада, які азначае пераход дрэваў у стан спакою. Гэты стан і ёсць прыстасавальнай рэакцыяй раслін на неспрыяльныя варункі, а наступленне зменаў залежыць перад усім ад працягласці светлага дня і ўмоў надвор'я.

Лісце тымчасам ахвярна пераходзіць у іншую якасць, папаўняючы пласт лясной падсцілкі, ізноў уключаецца ў адвечны калаўротак рэчываў і энергіі. Праз пэўны час яно, магчыма, абновіцца, зноў стане зялёным лісцем — сезоннай «рабочай сілай» дрэва.

Лістапад... Ападае і падае долу лістота. Жыве — і гіне. Каб жыў і вечна зелянеў наш Лес.

**Людміла Дворак,**
***батанік,***
***Нацыянальны парк «Белавежская пушча»***

Фота: Міхал Козел (Тураў)

Чалавеку, якому ніколі не давялося бываць у Белавежскай пушчы, цяжка ўявіць перад сабою адметную велічную красу гэтага шмат чым яшчэ першабытнага лесу. У ім няма аднолькава аднастайнага суровага каларыту дрымучага паўночнага бору. Ён велічны, дзікі, з адбіткам адвечнае друхлаватасці, але заадно ён бясконца цікавы шматлікасцю новых і новых малюнкаў, што сустракаюцца ў ім.

**Г.П.Карцаў,**
*(З кнігі "Белавежская пушча: яе гістарычны нарыс, сучасная паляўнічая гаспадарка і найвышэйшыя паляванні ў Пушчы", 1903)*

Непаўторнасць і першаўобраз Пушчы далі ёй яшчэ адну назву- жамчужыны беларускага краю. Давайце ж будзем беражліва ставіцца да гэтай каштоўнасці, перахоўваць вялікі наш скарб на радасць усім людзям, на карысць наступных пакаленняў.

**Анатоль Смактуновіч,**
палясоўшчык-ветэран, зараз на пенсіі
*в.Немержа Свіслацкага раёна*
*(З рукапісу "Гістарычная даведка пра Белавежскую пушчу", якую аўтар напісаў на просьбе рэдакцыі газеты, 1996)*

Пушчу ніхто не рубаў і рубаць не збіраецца. Сама я з гэтых мясцін, тут маё ўсё. І магу вас запэўніць: нашы дзеці і нашы ўнукі таксама будуць жыць тут, у Пушчы. І ніхто не будзе яе рубаць.

**Алена Канстанцінаўна,**
кадравік Нацыянальнага парка "Белавежская пушча",
*в.Камянюкі, лістапад, 1999*

У Белавежскай пушчы вялікае запусценне. Лепшыя дрэвы немцы ды англічане вывезлі, застаўся адзін маладняк. Зусім не той лес, якім ён быў, калі я пасвіў у ім скаціну вёсачкі Зановіны…

**Андрэй Пракапчук,**
родам з Пушчы, з самых яе Віскулёў, адкуль у 1930 выехаў у Парагвай і наведаў Радзіму ў 1996
*(З кнігі «Па цудоўных мясцінах», Брэст, 1999)*

Па вайне, калі не стала вузкакалеек, Пушча зрабілася недасягальнай. Старыя дарогі, яшчэ ад царскіх паляванняў, ператварыліся ў кісейную масу, сталі непраезнымі. Хіба на кані як-небудзь, на роварах.

Цяпер жа — асфальт. Тысячы кіламетраў дадатковых дарог. Стопрацэнтная дасягальнасць. Толькі газуй. Так званыя санітарныя рубкі — гэта падман, тралююць жа лес трактарамі. Адно што — бязбожна сякуць, другое — губяць, коўзаючыся, страты наносяцца куды большыя.

Каб хоць рэшткі, што ацалелі, уратаваць! Не рассеем мы гэты міф, не данясём горкую праўду пра Пушчу, яе гаротлівы сённяшні стан, — мы не ўратуем і рэшткі».

**Уладзімір Дацкевіч,**
ветэран пушчы, вучоны,
*в.Камянюкі, лістапад, 1999*

# Восень патрыярха

## *Год 2000*

**У Хроніцы «2000: Беларускае люстэрка» пісьменнік *Анатоль Казловіч* адчыняе яшчэ адну тайну Белавежскай пушчы, сцвярджае, што яна ніколі не была запаведанай.**



Камандуе Белавежскай пушчай Кіраўніцтва справамі адміністрацыі прэзідэнта РБ (яму належаць і астатнія запаведнікі ды нацыянальныя паркі краіны). Па сутнасці, Белавежская пушча прыроўнена да канцылярскай скрэпкі. Каб купіць тую самую скрэпку, грошы трэба ўзяць у Пушчы. Апроч таго, неабходна яшчэ апрануць, накарміць, усяляк аблагодзіць бацьку. Трэба задаволіць бясконцыя патрабаванні бязмерна расплоднай адміністрацыі.

Пушча — ласы кавалак, выгляд якога прымушае ўладу глытаць слінкі. Беларусь, як нам кажуць, будуе «сацыялізм з чалавечым тварам». А гэты сацыялізм — насамрэч тутэйшы, заснаваны на распродажы прыродна-сыравінных рэсурсаў. Ягоны «твар» займеў заклапочана прагавітыя рысы — быццам у пражэрлівай свінні, што сіліцца пракаўтнуць Белавежскую пушчу. Каб ты ўдушылася гэтым кавалкам!

Што спраўней ды ахвотней бярэ ў Беларусі замежны пакупнік? Слушна, лес. А лес у нас — скрозь пасляваенны, недаспелы, нетаварны. Спелы лес, той, што ідзе, скажам, на паркетную дошчачку, у Беларусі захаваўся дзе-нідзе плямкамі ў цяжкадаступных абшарах, яны пры савецкай уладзе называліся «запаведнікамі», а прэзідэнцкай уладай пераіменаваныя ў «нацыянальныя паркі». Новы статус не пакінуў запаведнікам нават крывадушна дэклараваную раней непарушнасць.

Найноўшая ўлада зняла з Белавежскай пушчы шматвяковую тайну і перастала прыкідвацца сама — «указала» Пушчы на яе рэальнае месца.

Галоўная тайна Белавежскай пушчы ў тым, што яна НІКОЛІ НЕ БЫЛА ЗАПАВЕДАНАЙ, хоць называлася запаведнікам скрозь. Першыя прыродазберагальныя захады кштталту цяперашніх запаведна-ахоўных мерапрыемстваў, былі ўведзены на тэрыторыі Пушчы ў XIII стагоддзі. Князі ВКЛ парупіліся ўстанавіць абмежаванні паляўнічым. Не сабе, зразумела, а тым, хто быў званнем ніжэйшы. У XIV ст. Пушча аб'яўлена запаведнікам, дзе паляванне дазволена толькі вялікім князям і набліжаным…







Архітэктар Бакланаў, праектуючы ў 1957 годзе будынак лясной дачы для маскоўскай камуністычнай знаці, мог звязваць ягоны лёс хіба што з паляўнічымі, а не палітычнымі залпамі. Цяпер над уваходам віскулёўскага палаца вісіць «каласковы» герб, які паспеў змяніць «Пагоню», вышэй -- чырвона-зялёны сцяг,-- быццам дакор таму, што адбылося тут у снежні 1991-га.

Фота: Валеры Дранчук. Віскулі, травень, 1998.



Расейскі герб на вялікай вежы паляўнічага палаца — асенняй рэзідэнцыі царскай сям'і (панішчаны з пажару ў 1944, зліквідаваны ў 50-я гады).

Фота: Ян Ежы Карпінскі. Белавежская пушча, 1936

***Улада, што ўвабрала ў сябе акупацыйную методыку ўсіх былых уладаў, пераўзышла ў тэхнічным прыладдзі ўсіх папярэднікаў-авантурыстаў ,-- выкарчоўвае нас з нашай роднай зямлі, абсякае нашы адвечныя карані, забірае будучыню.***

У XV ст. з'явіліся першыя ўказы, якія абмяжоўвалі высечку дрэў; Белавежская пушча дасталася нам дзякуючы паляўнічай заўзятасці і азарту ўладароў-магнатаў.

Дзве мэты ўступілі ў жорсткую супярэчнасць. Давялося праз заканадаўства парадкаваць лясную і звярыную гаспадарку на дзялянках ВКЛ (Статут 1588). Спецыфічная «заклапочанасць» правіцеляў станам Пушчы дапамагала перадавым дзеячам таго часу распрацоўваць талковыя правілы прыродакарыстання ў дзяржаве. Пра цывілізаванасць вялікасвецкіх уцехаў яны не заікаліся, у Пушчы панавала дзікае сярэднявечча. На каралеўскім паляванні 27 верасня 1752 года забітыя 42 зубры, 18 зубрых і 6 зубранятаў.

Пасля трэцяга падзелу Польшчы ў 1795 годзе Белавежскую пушчу (і Беларусь) прыбрала Расія. Пачаўся заключны этап звядзення Пушчы. У рэдкасна каштоўным лесе рэй вялі прагавітыя дзялкі-авантурысты, Пушча перацякала у іх кашалькі, вывозілася ў Англію, Германію, Францыю. Вяліся суцэльныя высечкі. Газета «Колокол» (1861) выступіла з артыкулам «Дрымучая справа». Вучоныя спрабавалі адстаяць у Пушчы правядзенне даследванняў, дабіліся адмены суцэльных высечак, правялі лесаўпарадкаванне, абнеслі Пушчу ровам і агарожай. Гэта ўсё здарылася таму, што Пушча была фактычнаю ўласнасцю царскай сям'і.

Першая сусветная вайна адчыніла браму перад новымі варварамі. Гэты раз былі немцы. За два з паловай гады акупанты вывезлі з Белавежскай пушчы амаль столькі драўніны, колькі вывезлі за XIX ст. ўсе дзялкі і зладзюгі Еўропы. Немцы залазілі ў глыбокія недаступныя месцы, цягнулі туды рэйкі, выбіралі з нетраў самае каштоўнае.

Па нямецкіх рэйках-пуцях (агульная даўжыня 300 кіламетраў!) у 1919 -1939 гг. прагна вывозілі белавежскі лес палякі. Кавалачак Пушчы быў названы Нацыянальным паркам, там польская вучоныя ўзнавілі зубра, і ў гэты ж самы час польскія лесапрамыслоўцы знішчалі Белавежжа як эталон прыроды.

У гады Другой сусветнай вайны Белавежскую пушчу працягвалі раскрадаць, адпраўляючы дабро к сабе дадому, немцы. Каб ніхто не замінаў, яны выселілі з Пушчы мясцовае насельніцтва і знішчылі 80 вёсак.

Пасля вайны пушчанцы-жыхары вярнуліся на свае папялішчы і ўзяліся секчы Пушчу сабе на хаты. Беларускі лес у вайну прытуліў людзей, за гэта людзі не пашкадавалі свайго зялёнага збаўцу, пасеклі ягоныя рэшткі на гаспадарку. Тым разам — і ў Белавежскай пушчы, якая ў 1944 годзе была абвешчана… запаведнікам. Там узвялі рэзідэнцыю для палявання вярхоўных маскоўскіх камуністаў. У 1957 годзе Белавежскую пушчу па-махлярску перахрысцілі ў «запаведна-паляўнічую гаспадарку». Пушчу згвалтавалі і, падалей ад заслужанай кары, прымусілі казаць: я — нечапаная, я — адвечна-казачная.

Белавежская пушча — мая зямлячка. Чую яе і разумею. Цяперашняя ўлада, што ўвабрала ў сябе акупацыйную методыку ўсіх былых уладаў, пераўзышла ў тэхнічным начынні ўсіх папярэднікаў-авантурыстаў,-- выкарчоўвае нас з нашай роднай зямлі, абсякае нашы адвечныя карані, забірае будучыню. Паэт Мікалай Гусоўскі пяць стагоддзяў таму хацеў адрадзіць Пушчу і нацыю адначасна. Ён разумеў адраджэнне як адзіны этна-культурны і прыродаахоўны працэс. Ён быў утапіст, але рацыю меў. Сённяшнія гвалтаўнікі беларускага Адраджэння забралі ў нацыі мову, сцяг, герб, Пушчу —і ўсё ў адначассе…

***З хронікі Анатоля Казловіча «2000: Беларускае люстэрка». Артыкул «Белавежская пушча. Нечапанаю — не была» друкуецца ў скароце са згоды аўтара***

# Ёсць такі *нацыянальны парк!*

*Ягонае кіраўніцтва прымае «ўсе магчымыя меры па нарошчванні аб'ёмаў вытворчасці піламатэрыялаў». Пераважна на экспарт*





***«Сам я з Жыткавіч і гэту праблему добра ведаю»,*** **— заявіў падчас наўпроставай сувязі па Радыё-1 міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Міхаіл Русы, адказваючы на запыт слухача з выпадку *высечак поймавых дуброў* у нацыянальным парку «Прыпяцкі». Міністр катэгарычна не пагадзіўся з тэлефонным суразмоўцам. Працытуем адказ міністра, зняты на дыктафон падчас радыёэфіру.**

«Дубровы спілаваныя не да стварэння нацыянальнага парка, а 25 гадоў таму. Я хацеў бы запабегчы ўсе далейшыя тэлефанаванні на гэты конт,--зазначыў ***М.І.Русы***,-- бо досыць часта даводзіцца чуць такое: раз там прадпрыемства Кіраўніцтва спраў прэзідэнта, значыць, абавязкова парушэнні. ***Няма там парушэнняў.*** Па даручэнні нашага прэзідэнта і па просьбе кіраўніка спраў мы ўзялі пад самы жорсткі кантроль усе нацыянальныя паркі. Дуб завозіцца туды з іншых тэрыторый, іншых дзяржаў, і калі вядзецца высечка, дык толькі на тых дзялянках, якія не ўваходзяць у зону нацыянальнага парка. Таму хачу запэўніць: што датычыць дуба ці іншых асабліва каштоўных гатункаў, у нас тут будзе парадак».

**Увага! Дакумент!**

Падаецца ў «жывым» выглядзе

*Інфармацыя.*
**Па знешнеэканамічнай дзейнасці нацыянальнага парка «Прыпяцкі».**
*Па стану на 1 студзеня 1999 г.*

1.Піламатэрыял абрэзны (хвойных парод) — «Констдрэў» (Польшча), м куб. — 7.000, кошт — 168 ДМ, сума кантракта 1.176.000, факт. адгружана 2.320,2.
2.Піламатэрыял абрэзны (хвойных парод) — «Timcon» (Нідэрланды), м куб. — 5.000, кошт — 450 ДМ, сума кантракта 2.250.000, факт. адгружана 35,4.
3.Піламатэрыял абрэзны (хвойных парод) — «Град б.в.» (Нідэрланды), м куб. — 30.000, кошт — $100, сума кантракта 3.000.000, факт. адгружана 144,05.
4.Піламатэрыял неабрэзны (хвойных парод) — «Ганна Маеўска» (Польшча), м куб. — 400, кошт — $85, сума кантракта 34.000, факт. адгружана 74,87.
5.Піламатэрыял неабрэзны (хвойных парод) — «I.POPP» (Германія), м куб. — 1200, кошт — 179 ДМ сума кантракта 214.800, факт. адгружана 56,67.
6.Піламатэрыял абрэзны (вольха) — «TINEZ plus» (Чэшская рэспубліка), м куб. — 31.150, кошт — 200 ДМ, сума кантракта 6.230.000, факт. адгружана 11,82.

гл. ст. 9

Аргументы Міхаіла Іванавіча выглядаюць, мякка кажучы, як вельмі дзіўныя. У іх, нібыта ў люстэрку, адбітак тыповага мыслення чыноўніка-бюракрата.

**Аргумент першы, падхалімажны:** па даручэнні нашага Прэзідэнта...

Ды ёсць жа Канстытуцыя і закон Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб'ектах, Канвенцыя аб біялагічнай разнастайнасці, у рэшце рэшт, сумленне і абавязкі міністра, а Вы, Міхаіл Іванавіч, кіруецеся нейкімі ўскоснымі даручэннямі даволі прыватнага кшталту (адмысловага ж «указа» не было).

**Аргумент другі, бюракратычны:** узялі пад самы жорсткі кантроль...

Чыста паперкавая дэкларацыя і амбіцыйная чыноўніцкая самаўпэўненасць. Бо ўзяць пад жорсткі кантроль досыць аддалены аб'ект сёння надзвычай цяжка, каб так адназначна рапартаваць пра адсутнасць там парушэнняў.

**Аргумент трэці, бязглузды:** дуб (для паркетнай вытворчасці — ***В.Д.*** .) завозіцца з іншых тэрыторый, іншых дзяржаў...

Скажыце, людзі добрыя, навошта тады ў нацыянальным парку, на асабліва ахоўнай прыроднай тэрыторыі ствараць паркетны цэх ды іншыя «леспрамгасаўскія» вытворчасці? Каб затым трымаць яго на прывазной сыравіне? Можа ў гэткім разе лепш падумаць пра больш адпаведную назву і самой запаведнай тэрыторыі -- напрыклад, нацыянальны парк па дрэваапрацоўцы і вытворчасці паркета...

Выглядае, што міністр, парыруючы заўвагу радыёслухача, праігнараваў літару закона Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб'ектах, які арыентуе нацыянальныя паркі ***на прыродалюбную і прыродаахоўную дзейнасць,*** а не гаспадарчую з відавочнымі фактамі вынішчэння біялагічнай спадчыны.

***«Кіраўніцтвам прадпрыемства прымаюцца ўсе магчымыя меры па нарошчванні аб'ёмаў вытворчасці піламатэрыялаў, у першую чаргу па экспартных пастаўках...»*** — чытаем ліст гендырэктара нацыянальнага парка С.Бамбізы кіраўніку справамі прэзідэнта.

Гэтаму дакументу-сведчанню не, не дваццаць пяць гадоў, на якія спасылаўся міністр. Яшчэ і года не прамінула...

гл. ст. 9









са ст.8

7.Піламатэрыял абрэзны (хвойных парод) — «Ван Веллерс — Хоутангенурон» (Нідэрланды), м куб. — 3.000, кошт — 170 ДМ, сума кантракта 510.000, факт. адгружана 64,24.
8.Піламатэрыял абрэзны (хвойных парод) — «Канікула» (Малдова), м куб. —2.300, кошт — 160 ДМ, сума кантракта 368.000, факт. адгружана 37,7.
9.Вугаль драўнінны — «SIGOTRONICS Gmbh» (Германія), тон — 30, кошт — 300 ДМ, сума кантракта — 9.000, факт. адгружана 13,26.

## Пасляслоўе

Магчыма, міністр М.Русы ўжо пашкадаваў, што сказаў не тыя словы. Аднак я далёкі, каб лёгка-паблажліва дараваць гэта адказнаму дзяржаўнаму чыноўніку. Перад мільённай аўдыторыяй ён сказаў людзям няпраўду, больш за тое: свядома і настойліва падкрэсліў нявіннасць сучаснай сістэмы і таго рэжыму, які прагнівае да апошняга сучка. Гэтая няпраўда — ці не тая кропля, якая перапаўняе цярпенне. Міністр М.Русы добра ведае парушэнні не толькі ў «Прыпяцкім», але і ў іншых мясцінах нацыянальнай запаведнасці.

Праз колькі дзён пасля перадачы я паехаў у Тураў, дзе месціцца сядзіба Нацыянальнага парка, каб на свае вочы запэўніцца ў тых парушэннях, якіх «няма», — перш-наперш у так званых санітарных рубках, за якія бессаромна хаваецца ўлада. У ваколіцах вёскі Хваенск мясцовыя жыхары паказалі мне жывыя раны вашай радзімы, Міхаіл Іванавіч. Тут, у зоне нацыянальнага парка, мяне акружалі свежыя пні векавых дубоў, а на зямлі дзе-нідзе яшчэ ззяла пілавінне. Адно з наймагутных дрэў засталося нявывезенае, і я моўчкі пастаяў каля яго, намагаючыся засвоіць сэнс паняцця «санітарныя рубкі». Гэта было прыгожае роўнае жывое дрэва, якое так рана пайшло пад нож у запаведаным(!) куточку Палесся. Вы не адчуваеце сваёй здрады, Міхаіл Іванавіч, калі мімаходзь згадваеце свой родны куток, якому прэзідэнцкія службы даўно і планава ладзяць Майданэк, а Вы паслужліва яго апраўдваеце? Я разумею, сёння цяжка выбіраць паміж праўдай і пасадай міністра, паміж самастойнасцю і абніжанай годнасцю. Аднак, нагадаю і сваім чытачам, і Вам, Міхаіл Іванавіч, што недзяржаўная прэса дзеля таго і йснуе, каб, у прыватнасці, засведчыць факт, што выбар гэты міністр Міхаіл Іванавіч Русы зрабіў.

**Валеры Дранчук**



Фота: Міхал Козел (Тураў)

У Тураве яшчэ не праклалі вузкакалеек, па якіх колісь немцы вывозілі Белавежскую пушчу. Затое тут, на тэрыторыі Парка, запушчаны паркетны цэх і працуе лесапаляўнічая гаспадарка.

*Кіраўніку спраў*
*Прэзідэнта Беларусі*
*Ціцянкову І.І.*

(Фрагмент, друкуецца з максімальным захаваннем арыгінальнага пісьма ў перакладзе на «трасянку» — ***рэд.***)

«У настаяшчы час у Нацыянальным парку «Прыпяцкі» па раду аб'ектыўных прычын не выконваецца графік пагашэння валютнага крэдыту ў доларах ЗША, атрыманага ў Гомельскім абласным упраўленні АСБ «Беларусбанк» у 1996 годзе з тэрмінам пагашэння ў жніўні 2001 года.

Кіраўніцтвам прадпрыемства прымаюцца ўсе магчымыя меры па нарошчванні аб'ёмаў вытворчасці піламатэр'ялаў, у першую чаргу па экспартных пастаўках...»

*Генеральны дырэктар С.М.Бамбіза*

Тураў, 1999

**Увага! Дакумент!**

Падаецца ў «жывым» выглядзе

**Увага! Цытата**

## У беларускіх запаведнікаў ёсць «ха-арошы хазяін»

«...Уся наша дзейнасць, гэта мне хацелася б падкрэсліць асабліва, рэгламентуецца заканадаўствам і *ажыццяўляецца ў строгай адпаведнасці* перш-наперш з законам Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях, законам Аб ахове жывёльнага свету, іншымі актамі дзяржаўнага значэння»

**Аляксандр Іванавіч Лучкоў**, начальнік кіраўніцтва ахоўных прыродных тэрыторый і лесапаляўнічых гаспадарак Кіраўніцтва спраў прэзідэнта.

Крыніца: ***«У заповедников есть хороший хозяин»,*** ***інтэрв'ю карэспандэнта БелТА. «Советская Белоруссия», 7.07.1999***

**Дарэчы**

## Толькі лянівы можа не ведаць...

Гадоў колькі таму міністр Русы ў тэлеперадачы «Сёння з вамі», гэтак жа парыруючы пытанне аўдыторыі ў дачыненні экалагічнай абазнанасці насельніцтва і доступу людзей да адпаведнай інфармацыі, падсумаваў: «Сёння толькі лянівы можа не ведаць...». Гэта азначала з кантэксту, што міністр тут не бачыць праблемы, інфармаванасць беларускіх людзей у пытаннях, скажам, экалагічнай бяспекі ўжо вырашаная. Нечуваная безадказнасць і неразуменне цяжкай праблемы!

І гэта не адзіны выпадак, калі праблема — наўзвоч, а М.Русы яе не бачыць. Прыгадваю пасаж Міхаіла Іванавіча — ужо на хлябах міністра — падчас канферэнцыі ў Стоўбцах (тут ён крыху раней быў Першым). Параўноўваючы Беларусь з «розным Захадам», міністр экалогіі запэўніў, што вада ў Нёмане да таго чыстая, што яе можна піць без наступстваў.

Што сказаць, такія міністры — анёльскія стварэнні для сённяшняга рэжыму, кішэннага парламента і талерантнага народа. Няма праблемаў — іх стварае апазіцыя. Адчуваеце, з якіх нябёсаў гэтыя анёлы? Аднак жа: калі ва ўлады кружыцца галава ад райскай вады і райскага паветра, у нас яна немінуча закружыцца ад нечага іншага.

**V.D.**

2 Зак. 2766



# Вечная крыніца Рымантаса Дыхавічуса

*«Немагчыма растаптаць тое, што здаецца табе прыгожым»— цвердзіць віленскі фотамастак*





*«Я ведаю, што сваімі «краскамі сярод красак» не перайначу свет, але раптам хоць нехта ды спыніцца ў звыклай ваяўнічай зацятасці. Ён не бачыць нічога, апроч каменю і жалеза, за якімі можна схавацца. Калі ж здарыцца хвіліна ўтрапення і ён заўважыць, што на гэтым свеце ёсць хараство, — хто ведае, можа, тады здрыганецца рука, занесеная для ўдара.»*

*«Я не веру, што яно ўратуе свет. Хараство — для ўратаваных, бандыта яно не спыніць. Хіба складана зламаць кветку альбо плюнуць у растуленую душу. Хараство безабароннае, але, магчыма, яно адно й ачалавечвае нас. І нараджае багавейлівасць — немагчыма растаптаць тое, што здаецца табе прыгожым.»*





*«Для мяне хараство — гэта гармонія: мастак дастае рэч з хаосу і ставіць яе на нейкае пэўна адмеранае, наперад вызначанае для яе месца.»*

*«Тут пачынаецца творчасць, дзе самы дасканалы творца — Бог. Такі і мой шлях: праз кветкі — да хараства, праз хараство — да кахання, праз каханне — да ісціны, праз ісціну — да свабоды, праз свабоду — да творчасці, праз творчасць — да Бога.»*

*«Я не адношу свае фатаграфіі да эротыкі. Для мяне эротыка — толькі найграная дэманстрацыя біялагічнага пачатку. Там няма лунання над зямлёй. Жаночае цела — гэта чаша. Яе можна напоўніць памыямі, а можна — горнай крыштальнай вадой...»* ■

**Мастацкая выстава «Вечная крыніца». Мінск, люты 1998**

Фатаграфіі з альбома «Краскі сярод красак» і з прыватнай калекцыі.







# Пытайце ў кнігарнях, замаўляйце ў бібліятэках

*Новыя выданні, якія могуць вас зацікавіць*



Ф.Скарына. Тытульны ліст Бібліі (Прага, 1517–1519)

**Асновы экалогіі і рацыянальнага прыродакарыстання.** *Аўтары Л.Ражкоў, Т.Жарская, У.Марцуль, А.Роўкач. Мінск: выдавецтва «Ураджай», 1999. — 327 с., іл. Вучэбны дапаможнік для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.*

Выкладзены агульныя ўніверсальныя прынцыпы сучаснага прыродакарыстання.

«Прыродаахоўнае і экалагічнае мысленне павінны стаць неад'емнай часткай ідэалогіі спецыяліста прамысловай вытворчасці і рэалізавацца пры выкананні ўскладзеных на яго прафесіянальных задач» — гаворыцца ў прадмове дапаможніка.

Апроч характарыстык прыродных рэсурсаў падаюцца такія раздзелы як «Экалагічная экспертыза», «Прававыя і арганізацыйныя пытанні аховы навакольнага асяроддзя», «Перапрацоўка, утылізацыя і абясшкоджанне адпадаў вытворчасці і спажывання» і інш. Варта адзначыць культуру мовы і неблагі стыль.

*Киселёв В.* **Основы экологии.** *— Мінск, выд. «Універсітэцкае», 2000 — 383 с.*

Дапаможнік скарыстаюць не адно студэнты ВНУ, але і выкладчыкі прыродазнаўчых дысцыплін сярэдніх школаў. Зрэшты, што такое біясфера, экасістэма, біяцэноз, папуляцыя, экалагічныя фактары асяроддзя і інш., сёння карысна ведаць усім.

*С.Балашенко, Д.Демичев.* **Экологическое право.** *Выданне другое. — Мінск, выд. «Ураджай», 1999. — 394 с.*

Аналізуюцца галоўныя экалагічныя праблемы. Падаецца таксама прагназаваны ўплыў эканамічнай рэформы на асяроддзе, вызначаюцца змены, якія трэба ўнесці ў экалагічную палітру ўлучна з патрабаваннямі экалагічнае бяспекі.

**Нясвіж.** *Альбом. — Мінск, выд. «Беларусь», 2000. — трэцяе выданне.*

Кніга каляровых фатаграфій знаёміць хутчэй з зялёным Нясвіжам, гэта значыць з ягонай багатай воднарасліннай спадчынай — Радзівілаўскім паркам, гарадскімі прыазёр-



Фрагмент аднаго з развваротаў кнігі — замкавая вежа, па якой досыць лёгка пазнаць Нясвіж.

нымі краявідамі, маляўнічымі сажалкамі і лугавінамі. Архітэктура замка і сам горад як бы на другім плане, але яны арганічна адчувальныя, прысутныя. Мабыць, гэта той рэдкасна шчаслівы выпадак, калі чалавек-гаспадар дазволіў навокал сябе запанаваць прыродзе, яе чароўным аздобам, густоўна прымножаным культурнымі і багатымі продкамі. Атрымалася наўздзіў дасканала, прыстойна. На тым, мо, і будзе трымацца Нясвіж.

Апроч галоўнага аўтара — выдатнага беларускага фотамастака XX стагоддзя *Валянціна Ждановіча* - - кароткае слова пра Нясвіж гаворыць *В. Дранчук*, а «прыдумаў» альбом ягоны ўкладальнік *М. Дзелянкоўскі*. Аформіла — мастак *А.Жданоўская*.

Тэксты пададзены таксама ў ангельскай і польскай мовах.

**Путешествие в мир родной природы.** *— Мінск, выд. «Універсітэцкае», 2000. — 142 с.*

Нягледзячы на рускамоўную назву, пад вокладкай кнігі сабрана шмат тэкстаў і на беларускай мове. Дапаможнік адрасуецца настаўнікам пачатковых класаў, выхавацелям груп падоўжанага дня, кіраўнікам гурткоў і інш. — так бы мовіць, для творчага скарыстання, бо выклад пераважна апісальна-пазнавальны, праблемы экалагічных пагрозаў і захавання прыроднай спадчыны ці праглядаюцца цьмяна, ці замоўчваюцца; зрэшты, аўтары-складальнікі *В.Мінаева* ды *І.Шарапава* дамагаліся іншага — даць падставы і матэрыял для дыскусіяў, вусных часопісаў, віктарынаў, экскурсій і г.д.

Асобныя старонкі ўпрыгожаны графічнымі малюнкамі, што робіць падарожжа па Беларусі шмат цікавейшым.

*В.Дзямянчик.* **Зоологические экспонаты. Общая таксидермия.** *— Мінск, выд. «Універсітэцкае», 2000. — 224 с.*

Аўтар — вядомы навуковец і эколаг, валодаючы энцыклапедычна шырокім тэматычным досведам, — распавядае пра спосабы вырабу вучэбных, навуковых, дэкаратыўных экспанатаў жывёл, арыентуючы цікаўных на самастойнае асваенне справы.

Кніга-дапаможнік разлічана на студэнтаў біялагічных спецыяльнасцяў, але не менш эфектыўна можа прыдацца настаўнікам агульнаадукацыйных школ (сапраўды, на што толькі не здольныя школьныя настаўнікі, асабліва творчыя няўрымслівыя натуры; бяда адно ў тым, што дзяржава ўжо зусім спіхвае іх на край матэрыяльнага выжывання!)

Увага. Рэдакцыя «БП» будзе кіравацца правілам: даваць інфармацыю толькі пра тыя выданні, якія пабачыла і мае пра іх досыць поўнае ўяўленне.









«У 2000 годзе паміж намі не будзе граніц. Я тады ўжо буду на пенсіі, сяду на ровар і паеду вудзіць рыбу на Беларусь».

**Лех Валенса** Прэзідэнт Польшчы. Мінск, прэс-канферэнцыя.1994.

«Што да ровара як сродку народнай дыпламатыі, дык я, найнакш, апярэдзіў пана Валенсу на шэсць гадоў»

**Валеры Дранчук** Журналіст. Запіс у нататніку. 1994

# На мінскім ровары да суседкі Польшчы

*Лірычны дзённік аднаго падарожжа як настальгічнае развітанне аўтара з Другім тысячагоддзем — насустрач Трэцяму*



Праблема аздараўлення навакольнага асяроддзя і бяспекі жыцця на зямлі куды лепш асэнсоўваецца, калі едзеш на ровары, а не ціснеш на газ легкавіка. Трансмежавасць майго падарожжа рабіла гэтую выснову яшчэ больш пераканальнай. Я ехаў спасцігаць суседнюю краіну з глыбіні яе ландшафтаў, матывы якіх унутрана прадчуваў — з паэзіі, жывапісу, музыкі. Я мусіў у гэтым запэўніцца на ўласныя вочы; мяне цікавіў краявід, асяроддзе, стан прыроды, аблічча мястэчак і вёсачак, хутароў, людская аўра. Я ехаў насустрач Ружэвічу ("Восень / дажджы за вокнамі пралятаюць / лопаюцца каштаны / падскокваюць / хлопчыкі бягуць са школы"). А Стафф нібыта "заставаўся" у Мінску ("Пабудзем дома, пыл змахнём са стула").

"Што, на ровары!?"—мой транспарт выклікаў спачатку здзіўленне. Пасля – захапленне. У рэшце рэшт– замілаванне ці зайздрасць. Нюансы скепсісу й спагады, што мелі месца ў асобныя моманты, я схільны хутчэй прапускаць, чым прымаць блізка. "Вы першы..." — заўважыў памежнік-беларус Андрушчанка. Паўгадзіны раней ён дужа сумняваўся, што мне ўдасца перасекчы Варшаўскі мост гэткім запростым чынам. Далажыў начальству пра "надзвычайнае здарэнне" на давераным яму пасту, пры гэтым я заўважыў ноткі зычлівасці і прыязнага спрыяння, праўда, пасля таго, як я паспеў паказаць яму дакументы і рэдакцыйную адносіну. Кароткае знаёмства за дзвярамі службовых кабінетаў, дзе мяне, прыемна зазначыць, ані не абразілі ценем падазронасці, я хутка ўладжваў фармальнасці, аднолькавыя для ўсіх. У мой заплечнік ніхто не заглядваў (відаць, бачылі наскрозь). А што да ровара, дык адзін польскі памежнік спытаў толькі, ці не развапіцца часам у дарозе. Было зразумела, што ён мне гэтага не жадае і частку маіх турботаў як бы падзяляе са мной.

Вядома ж , мяне не прапусцілі б, калі б не афіцыйная папера з просьбай "аказаць садзеянне", бо сямідзённая паездка журналіста была не зусім прагулкай (гэта быў бы, мо,

працяг ст.14

Мікола Селяшчук. Ілюстрацыя. «Дзень паэзіі»-1985



**Ларыса Геніюш**
(1910-1983)
З чатырохрадкоўяў

* * *

Ўжо гасьне дзень, я па зямлі ступаю,
І сьцежачка ляжыць перада мной.
Здаецца мне, мая зямля сьвятая —
Прасякнутая болем і крывёй...

* * *

Сёньня на пласе родная мова.
Вырваць жывую належыць з агню.
Слова «кахаю» — слабае слова.
Мужнае слова — «абараню»!

* * *

Я ганаруся з асваеньня неба.
Але калі ракеты чую гром,
Мне хочацца нажаць сярпочкам хлеба
І з ворагам пабіцца кулаком.

90 гадоў ад нараджэння



Прага.1930

**Змітрок Бядуля**
(1886 -1941)
* * *

Лезе ў вочы ззянне месяца.
Месяц яркі, як пажар.
Мне здаецца, стаіць лесвіца
З азярода аж да хмар.
А па лесвіцы па срэбранай
Нехта лазіць угару.
І кашуля на ім зрэбная,
І глядзіць ён на зару...
А зара яшчэ ледзь сцелецца,
Грае міскаю нябёс,
Сыпле іскры на аселіцу,
На вяршаліны бяроз.
А туман дыміць над грэбляю.
Млын, бы човен уначы.
Вецер носіць вільгаць глебную.
Птушка крыкне, замаўчыць.

**Язэп Дыла**
(1880-1973)

Вечар ясны, ціхі;
Спіць ў тумане поле,
На блакітным небе
Блішчыць агню мора...

Заходнага сонца
Золатам багата
Зверху і данізу
Ўся заліта хата...

І за краем поля,
Дзе ляжыць дарога,
Вярхі чырванеюць
Лясістага лога...







Фота: Валеры Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)

**Джорджэ Баковія**
(Румынія)
Восенькі вальс

Пад вокнамі журботны, аднастайны
Вальс восень выцінае на габоі.
Давай станцуем, мілая, з табою
Пад гэты плач тужліва-пахавальны.

Услухайся, матыў сакраментальны
Плыве з-за дрэў па лісцяў пазументах —
Ізноўку на драўляных інструментах
Іграе восень вальс свой пахавальны.

Мінорны згук. Матыў зусім не бальны.
Абняўшыся мацней, мы засумуем...
Давай з табой, рыдаючы, станцуем
Пад гэты плач асенні, пахавальны.

*Пераклад І. Івашкі*

***Анталогія** у перакладзе з грэцкае мовы значыць букет кветак. Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі*

**Рокан**
(1758-1831)
Японія
* * *

Вады нанасіць,
Ды паболей насекчы дроў,
Ды зёлак сабраць-насушыць,
Пакуль шэры дождж асенні
Ліць, бы з вядра, не пачаў

**Чытаем у арыгінале**

**Maciej Buraczok**
Maja chata
Biedna ж maja chatka razsielasia z kraju,
Mieж piaskou, kamienniau, la samaho haju,
La samaho boru, na biaražku lesu;
Nichto tut nia trafie, choćb by z intaresu...

*1891, Kракаў*



**Пімен Панчанка**

На небе цёмна і пагана,
Свет у раз'юшанай імгле.
А вецер сёння ураганны,
Хістае, гне і ломіць лес.

Радзее гай, падлесак гіне.
Выццё, і скрып, і бляск, і гром.
І карані трашчаць тугія,
І трушчыць гнёзды буралом.

Я жыў паміж бяроз і клёнаў,
Вятроў мне звычны галасы...
Цыклоны і антыцыклоны
Руйнуюць сёння ў нас лясы.

Да нас і смерч ужо заходзіць,
Глядзіш — і хата без страхі...
Канец дваццатага стагоддзя,
Дыханне грозная стыхій.

**Георг Тракль**
(1887-1914)
Аўстрыя

На балоце

Чорны вецер з дарогі:
ў аціхлым балоце
шапоча сухі чарот.
На шэрым небе,
над цёмным люстэркам вады
караван жураваў пралятае.
Мяцежна. Ў хаціне —
старой, падупалай —
чорнакрыла варушыцца тло.
Быццам цені вятроў,
уздыхаюць бярозы-калекі.
Вечар. Харчэўня.
Бяззлюдна і пуста вакол.
Шлях дамоў, апавіты сціхотай-журбою
статкаў на пашы.
З вады серабрыстай
вынырваюць жабы —
блізка ўжо ноч, і шапоча сухі чарот.

*Пераклад В. Дранчука*



# Станем у жывы ланцуг!

*Ліст ад Арцёма Назаранкі*

*«Я - грамадзянін Беларусі, але са мной ніхто не параіўся, як распарадзіцца ўнікальным багаццем маёй Радзімы».*

Сёлета мне пашчасціла браць удзел у шырокай акцыі, што ладзіў Беларускі Зялёны Крыж. Назва акцыі — маладзёжны фестываль «На Беларусі мы жывём». Сама назва гаворыць за тое, што галоўнай мэтаю акцыі было пазнаць нашу Радзіму— Беларусь з усіх бакоў. Дзеля гэтага ўдзельнікі фестывалю падзяліліся на 10 гуртоў, ці, як іх называлі, экспедыцый. Кожная з іх мела сваю задачу, свой асобны план дзеянняў і маршрут падарожжаў. Ачольвалі экспедыцыі знаныя беларусы, якія праславіліся сваімі поспехамі і прафесіяналізмам у той ці іншай галіне.

Я трапіў у экспедыцыю «Фатаграфічны мастэр-клас «Краявіды Беларусі». Пад час экспедыцыі я пабываў у знакамітых мясцінах Заходняй Беларусі і Беларускага Паазер'я: на рацэ Суле, якую лічаць самай чыстай на Беларусі, на Браслаўшчыне, пабачыў шмат выдатных помнікаў, сустрэўся з цікавымі людзьмі, патрыётамі сваёй Айчыны.

Я ўпершыню пабачыў Заходнюю Беларусь. І тыя краявіды, што паўсталі перад вачыма, не проста ўразілі — яны забралі мяне ў палон: узгоркі, звілістая дарога, што часам нагадвае серпантын, велізарная колькасць буслоў, што лятаюць над стрэхамі дамоў, сядзібамі і палеткамі (на Гомельшчыне, здаецца, я ніколі не бачыў гэтулькі буслоў), хутары, што месцяцца на ўзгорках пасярод лесу ў недасяжнай далечы ад буйных гарадоў і вёсак — словам, тое, чаго я ніколі раней не бачыў, не магло не здзівіць мяне. У рэшце рэшт, я запэўніўся, якой рознай можа быць Беларусь, як шмат у ёй красы і адметнасці.

На Браслаўшчыне нас сустрэў несупынны дождж, толькі зрэдчас на колькі хвілін, быццам жадаючы абагрэць зямлю, з-за хмараў прабівалася сонца… Але нават халаднаватае і мокрае надвор'е не магло перашкодзіць нам адчуць і на свае вочы пабачыць непаўторную прыгажосць, якой вылучаецца гэты запаведны куток Беларусі. Канешне, я шмат чаго чуў пра Браслаўскія азёры, бачыў шматлікія здымкі і кінастужкі, і яны западалі ў памяць. Але нішто не можа ўразіць так, як уласна Браслаўскія азёры, калі глядзіш на іх сам. Якія краявіды адкрываюцца з Замкавай гары ў Браславе! Колькі ўзгоркаў, узгорачкаў па ўсім Браслаўскім краі, якія даюць магчымасць глыбей адчуць хараство роднай зямлі. І я на ўласныя вочы ўсё гэта пабачыў. Павінен сказаць вам — незабыўнае ўражанне на ўсё жыццё. Я выразна адчуў велічную разнастайнасць і непадзельнасць беларускай прыроды і самой Беларусі. Гэта не пустыя словы.

І былі мы на Суле. Цудоўная рака, глыбокая, з празрыстай халоднай вадой — як мала такіх засталося! Але што цікава — бачылі мы там млын. Стаіць, пабудаваны прыканцы XIX-га стагоддзя і занядбаны, разбураны ў стагоддзі XX-м. Стаіць — і не толькі не парушае мясцовага прыроднага асяроддзя, але і надзвычай гарманічна дапаўняе адвечны краявід. Па ўсім — нават па тым, як ідзе дарога на млын — відаць, што продкі нашы з вялікім імпэтам ставіліся да прыроды і наваколля. Як нам гэтага бракуе цяпер! Размешчаныя пасярод палеткаў кар'еры, паўсюднае засмечванне, мехдвор на самай высокай кропцы Беларусі — гары Дзяржынскай, абы як забудаваныя вуліцы, мікрараёны. Там, дзе красаваў луг ці шумеў векавы лес, вырастаюць газанапаўняльныя станцыі ды аўтазапраўкі. А паркет з Прыпяцкага нацыянальнага парку (былога запаведніка), пілярамы ў бадай што самым знакамітым лесе Беларусі — Белавежскай пушчы… Гэта кароценькі пералік таго, што мы ўжо зрабілі. Ці ёсць магчымасць хоць нешта змяніць, перапыніць разбуральны працэс? І як?

Ведаеце, мне падаецца, што дзеля таго, каб нешта змяніць у практычным плане, трэба мяняць тое, што ў галовах у людзей. Сучасны беларус у большасці сваёй затурбаваны тым, як пражыць. У яго ледзь хапае часу зарабіць на хлеб. Што ж да праблемы аховы прыроды, то ён думае, што ў гэтым ён наўрад ці дапаможа, маўляў, ёсць дзяржава, міністэрства, прэзідэнт. Дый столькі запаведнікаў і нацыянальных паркаў — Белавежская пушча, Прыпяцкі нацыянальны парк, Бярэзінскі запаведнік, Браслаўскія азёры, Нарач — куды ж больш! Нават створаны, вунь, Беларускі фонд запаведнікаў! Дзяржава клапоціцца, а вы, буржуі і «нячэсныя», толькі перашкаджаеце. А што на запаведных тэрыторыях развіваецца буйная гаспадарчая дзейнасць, вынішчаюцца ўнікальныя, адзіныя ледзь не ў цэлым свеце экасістэмы, хвалюе толькі асобную частку грамадства, астатняя пра гэта мала што ведае з-за недахопу інфармацыі.

А гэта ж тое нешматлікае, што сапраўды можна назваць нацыянальным багаццем, прыроднай спадчынай. Кажучы пра поймавыя дубровы Прыпяцкага нацыянальнага парку, што зараз у выглядзе паркета ідуць на Захад, трэба памятаць пра абсалютную іх унікальнасць. Я — грамадзянін Беларусі, але са мной ніхто не параіўся, як распарадзіцца выключным багаццем маёй Радзімы. Сумняваюся, што нехта параіўся з вамі ці з некім іншым.

Дык што ж рабіць? Мяркую, трэба паказваць людзям прыгажосць і веліч прыроды іх краю. Прыгажосць уражвае, яна дае адчуць адзінства з прыродай, адчуць, што ты — частка, хай і маленькая, гэтага хараства і багацця, гэтай каштоўнасці. Ты адчуваеш, як гэтае асяроддзе выхоўвае, захапляе, духоўна і фізічна ачышчае, супакойвае. І ты выразна ўсведамляеш: ёсць тое, што ты можаш і павінен захаваць дзеля сваіх нашчадкаў, што ніхто не мае права рабаваць прыроду, і што твой абавязак — не заставацца ў баку, а рабіць усё магчымае, каб захаваць прыроду ў нязменным стане.

*Лічу, трэба як мага далучаць беларусаў да праўдзівых беларускіх каштоўнасцей. Бо калі чалавек сам адчуў каштоўнасць свайго, ён ніколі ўжо не дазволіць абыйсціся з ім абыякава.*

Чаму мы лічым, што ўсё дадзенае нам — абавязкова наша, маё, асабістае? Чаму мы пазбаўляем сваіх нашчадкаў магчымасці адчуваць тое, што адчувалі самі: дыхаць свежым паветрам, жыць на чыстай зямлі, піць неатручаную ваду? Шматлікія лясы, азёры, балоты ўжо зніклі з аблічча беларускай зямлі. Знікаюць апошнія запаведныя куткі. Краявіды — вобразы нашага краю — разбураюцца дзейнасцю чалавека: параскіданыя і разлітыя цыстэрны, кінутыя абы-дзе рэйкі, непатрэбны кар'ер, высечаны лес, неахайны мехдвор, неапрацаваныя палеткі — усё гэта можна пабачыць не ад'язджаючы далёка ад Гомеля, дый, упэўнены, любога іншага беларускага горада. Лічу, трэба як мага далучаць беларусаў да праўдзівых беларускіх каштоўнасцей. Бо калі чалавек сам адчуў каштоўнасць свайго, ён ніколі ўжо не дазволіць абыйсціся з ім абыякава. Просты прыклад. Калі маім сябрам стала вядома, што заўтра збіраюцца зрэзаць маленькі зялёны скверык, у якім яны выраслі, дзеля таго, каб з'явіліся новыя парковачныя месцы, яны зрабілі ўсё, каб гэтага не адбылося. Яны абаранілі сваю каштоўнасць. Стварылі жывы ланцуг, каб на двор не змагла заехаць тэхніка, сабралі подпісы пад калектыўным зваротам. Яны дамагліся свайго. Чыноўнікі адчулі супрацьстаянне і адступілі.

Такім чынам, трэба паказваць людзям прыгажосць і тое, што гэтая прыгажосць знікае, і што яе можна абараніць уласнымі сіламі. Мы можам гэта зрабіць.

**Арцём Назаранка**, *16 гадоў, Гомель*

Заняткі ў Школе зялёнага выдавецтва і ландшафта ладзіць біёлаг Наталля Швед. Экспедыцыя-2, творчыя студыі. Ліпень 2000.

Фота: Валеры Дранчук.

Галінка валяр'яну. Малюнак з альбому.

Са старонкі 3

## Устойлівы хутар у цэнтры Еўропы



Каця Калініна брала ўдзел у іншай экспедыцыі — мастакоў-пленэрыстаў — і трапіла на хутар заездам, прабавіўшыся тут лічаныя хвіліны. Аднак для творчай натуры хапіла і гэтага часу, каб хутка агледзецца і зрабіць імгненны партрэт расліны, якая спадабалася мастачцы прыгожай паставай і рыцарскім выглядам.

**Каця Калініна.** Малюнак з альбома. Лопух. Ліпень 2000.

Хутар Гавязна—біялагічны мікразаказнік, дзе разрастаецца рэдкі від—белакапытнік гібрыдны, які трапіў у Чырвоную кнігу (*пазначаны кружком*).



Узяць удзел у творчых студыях Школы пажадала і Ірына Палубаярава — вучаніца мясцовай школы. Яна любіць маляваць алоўкам і вугалем, асабліва старыя вячыстыя дрэвы ў кронах-вянках.

*«Яшчэ праз чатырнаццаць вёрст сярод ураджайных раўнінных палёў ляжыць мястэчка Гавязна з прыгожай муравана́й царквою, з прасторнай драўлянай карчмой, з панскім маёнткам непадалёку і з некалькімі падуладнымі яму вёскамі. Гэта адна са старэйшых тут сядзіб. У 1588 годзе Мікалай Крыштоф Радзівіл набыў яго ў Слуцкага князя Яна Алелькавіча, а ў 1590 годзе перадаў з усімі сваімі навакольнымі вёскамі кляштару нясвіжскіх бенедыкцінак, якія заснавалі тут раскошную уніяцкую царкву...»*

**Уладзіслаў Сыракомля.**

*Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. Вільня. 1853.*





Газета майго і твайго наваколля

# Устойлівы хутар у цэнтры Еўропы

## Я хацеў бы спаткацца з вамі на ўлонні…

*(Інтэрв'ю-мроя)*

*Летнім ліпеньскім часам я паехаў на хутар Устойлівы, каб пазнаёміцца з выдатнай прадстаўніцай беларускай біяжурналістыкі Марыяй Мартысевіч (далей М.— гіпатэтычная дзяўчына — **аўтар**). Пад'язджаючы да хутара, я заўважыў яе на мяжы каля поля, дзе яна збірала гаючыя зёлкі. Рэпрэзэнтавалася: Марыся.*

*Алесь: Марыся, чаму ты вырашыла займацца біяжурналістыкай?*

*М: Я нарадзілася беларускай і заўсёды ўсведамляла сябе часткай гэтай краіны. Мне зрабілася прыкра, калі даведалася, што біялагічная спадчына Беларусі не ахаваная, знаходзіцца ў небяспецы. Мяркую, гэта вынік чалавечага эгацэнтрызму, з якім трэба змагацца. І таму я пайшла ў экажурналістыку.*

*А: Ага! Дык ты займаешся экажурналістыкай, а чым яна адрозніваецца ад біяжурналістыкі?*

*М: (смяецца) Ды нічым, усёадно.*

*А: А як ты трапіла на хутар Устойлівы? І ўвогуле, што тут адбываецца?*

*М: Хіба ты не ведаеш, тут сабраліся беларускія дзеці, каб узяць удзел у дзейнасці школы экажурналістыкі. Спадар Валеры Дранчук запрасіў і мяне далучыцца да групы ахвотнікаў, якія, паводле ягоных словаў, павінны вызначаць будучыню экажурналістыкі.*

*А: Запрасіў — і што далей?*

*М: Прачнуліся мы на золку, селі і паехалі. Праз лясныя абшары нас павез аўтобус, падобны на трамвай, да брукаванкі каля Стоўбцаў… Я, дарэчы, параўнала б гэтую дарогу з жалязкам, даўнейшым прасам, які сёння замянілі на навейшыя ды экалагічна небяспечныя «Мулінэксы», «Крупсы». Вось… А пасля наведання Міра і Нясвіжа мы, нарэшце, апынуліся на Ўстойлівым хутары ў цэнтры Еўропы (так, здаецца, называецца праект). Першая імпрэсія была занадта звычайнай, але апусканне у гэтае месца (як у студню) шмат*

ст. 21

## Такіх хутароў на Беларусі адзінкі

*Яшчэ быў дзень, свяціла сонца, а ў садзе было так ціха, быццам за вялізнай сцяной. Я адчуў, што дыхаю чыстым паветрам.*

*Так адбылося маё першае знаёмства з Устойлівым Хутарам. Затым мы пайшлі на ручай. Вада ў ім празрыстая і сцюдзёная, са жвірыстым светлым дном, а берагі зараслі высокай балотнай травой.*

*Падчас Малой экалагічнай сцяжыны, на якую запрасіў нас спадар Валеры, гаспадар Хутара, мы ўбачылі след урагану 1997 года — за вёскай Кучынаўшчына бура знішчыла цэлы абшар лесу. На вялізных плошчах расчысткі былі ўжо зроблены пасадкі — з зямлі паказваліся кволыя дубкі. Спадар Валеры патлумачыў, што лес прыняў на сябе ўсю моц стыхіі і стрымаў хвалю разбурэнняў. Чалавек павінен разумець гэта, быць удзячным зялёнаму другу, заўсёды здымаць перад ім шапку.*

*Мы выйшлі на светлую дзялянку, дзе цвіў святаяннік. Я даведаўся, што гэта лекавая расліна, і асцярожна сабраў невялікі букет. Да яго ж далучыў пучок ружовага скрыпеню, з якога таксама можна варыць гаючую гарбату. Я падзякаваў лесу за яго падарункі і пажадаў яму хутчэй падняцца на ногі, залячыць свае раны.*

*Незабыўная была і экскурсія са свечкай. Калі сцямнела, спадар Валеры прывёў нас у сад, запаліў доўгую грамнічную свечку і прапанаваў ісці за ім. Мы спусціліся ў вялікі падвал — гэта быў склеп — і доўга аглядалі яго мураваныя сцены, авальную столь. Вялізныя камяні хавалі сівую даўніну, прыемную прахалоду і дасканалае майстэрства будаўнікоў.*

*Мне вельмі шкада, што хутароў, такіх, як гэты, засталося зусім няшмат, можа, адзінкі. Дый пераважна ў Заходняй Беларусі. Тут, я думаю, чалавеку хораша працавалася, бо навокал была свая зямля, і прывольна жылося сярод прыроды.*

**Сяргей Бачынскі**
*9 клас,*
*Калінкавічы*

## Дзе шукаць адказу?

*Пасля хутара нас чакала новае жыццё, розныя фэсціны і вечары, але дзіўная неспадзяванка — гэты новы этап нечакана расчараваў, «вяртанне да цывілізацыі» неяк блякла на фоне папярэдніх пяці «ўстойлівых» дзён. Сябры, шукаючы прычыну, жартавалі, што, маўляў, паменшаў паёк, але тут жа прызнавалі без жартаў — жыццё на хутары трымала моцную канкурэнцыю перад усім, што было ў фестывальным «меню», як, напрыклад, кіно, спартыўныя спаборніцтвы, басейн і інш.*

*Напраўду, цікава атрымліваецца. Дарэчы, што гаворыць на гэты конт навуковая літаратура?*

*Мяркую, «ўстойлівы хутар» будзе ўпарта стаяць на сваім. Але ці хопіць «грунту»? І што будзем рабіць мы — як будзем жыць і на якія каштоўнасці абапірацца? Я пакуль не гатовая даць адказ.*

**Аля Кірпічова,**
*будучы філолаг,*
*Мінск*

Цвіце белакапытнік гібрыдны, рэліктавы горны від… Красавік 2000.
АрСтудыя «Краявід»

## «Экскурсія» па тарфяных джунглях

*Я ўпершыню апынуўся на хутары, які мяне моцна ўразіў. Ніколі не думаў, што жыццё сярод поля можа быць цікавае, поўнае зместу і таямніц.*

*На трэці дзень з сябрамі выбраліся ў мястэчка з вялікай прыгожай царквою. Каб скараціць дарогу, пайшлі нацянькі праз тарфяное балотца. Аднак трапілі ў сапраўдную пастку: змералі шэсць глыбокіх равоў, дзе папякліся аб крапіву, і як толькі заўважылі абрысы хутара (вянок высокіх дрэў), хутчэй рушылі назад. Гэта была няўдалая спроба адысціся ад дому, затое выдатная экскурсія па тарфяных джунглях.*

*Калі вярнуліся на Хутар, адчулі, як тут ціха і ўтульна, цёпла і суха. Толькі вечарам з луга струменіць мяккая вільгаць і прахалода.*









## Мне спадабаўся заход сонца

*На хутары я зноў пачаў маляваць. Гэта даўняе маё захапленне, але неяк бракавала часу, ці не было настрою — я рэдка браўся за аловак і фарбы. А тут, сярод цудоўнай прыроды і цішыні, мне захацелася перанесці на паперу ўсе свае ўражанні, якіх вельмі шмат.*

*Асабліва мне спадабаўся заход сонца, калі промні кладуцца на траву ў садзе, на поле збажыны, на ствалы дрэў, на галінкі і лісце. Усё навокал свеціцца, прыгажэе, краявід напаўняецца яркімі фарбамі.*

*На хутары, куды ні паглядзіш, відаць гарызонт. Гэта захапляе. Я з задавальненнем браў бінокль і глядзеў на балота, луг, на лес і дарогу, на статкі кароў, аддаленыя вёскі. А потым браў паперу і маляваў.*

**Слава Атрошчанка,**
*10 клас,*
*мястэчка Васілевічы*
*Рэчыцкага раёна*

Слава Атрошчанка.
Малюнкі з альбома.
Ліпень 2000.

са ст. 20

*перамяніла… І гэта важна. Разумееш, калі месца і ты прыстасоўваецеся адзін да аднаго — вынік яскравы ў параўнанні менавіта з тымі рэаліямі, якія існавалі на хутары. Мэтай гэтай школы, на маю думку, і ёсць спроба перадаць нейкую "амальгаму душы", з дапамогай якой мы маглі б адлюстроўваць навакольнае асяроддзе ў сваіх замалёўках. Глядзі, якое стракатае наваколле… Мне вельмі падабаюцца палі. Разумееш, у горадзе няшмат дзе сустрэнеш гэткі жывы, рухавы ды яркі, натуральны жоўта-залацісты. Такі не прапануе табе ніякі манітор. Ці Белае ўрочышча, Белае балота. Ніхто ж іх не фарбаваў, праўда? Але каб адчуць іх колер, трэба пазбавіцца бруду, штодзённай гарадской мітусні і знайсці ўнутраную чысціню, якая дзесьці там сальецца з колерам таго ўрочышча ды балотца. Малая ды Вялікая экалагічныя сцежкі, штодзённыя шпацыры ды мастар-класы (здаецца, так гэта называецца?) зрабілі нашае жыццё бесперапынным шэрагам імпрэсій.*

*А: Цяпер пра зёлкі. Як называецца вось гэта, што ў цябе ў руках?*

*М: Гэта яснотка. А там вунь жаўцее святаяннік. Яго тут багата. А вось зарніца, ад ангіны. Як бачыш, цэлы зёлкавы рай.*

*Пасля гэтых слоў Марыся, плаўна распускаючыся ў паветры, праз колькі імгненняў знікла. А я ледзь паспеў сказаць прыгаданае з Багдановіча ды крыху перайначанае на свой лад: «Я хацеў бы спаткацца з вамі на ўлонні…»*

**Алесь Залескі**
*студэнт-фізік, 1 курс БДУ*

## Сем буслоў у небе

*Калі наш аўтобус з'ехаў з шашы на палявую дарогу і Хутар быў ужо зусім недалёка, з вакна я ўбачыў буслоў. Іх было сем. Я падумаў, што гэта добры знак, і расчаравання не будзе. Бо спачатку сумняваўся: ехаць ці не ехаць… Але Наталля Аляксееўна (каардынатарка фестывалю — **рэд.**) пераканала, што я шмат згублю, калі застануся. І я паехаў.*

*Вечарэла. Было так ціха, што здавалася, ты тут адзін і навокал цябе толькі прырода. І прыехаў ты сюды дзеля таго, каб пабыць сам-насам з прыродай.*

*З кожным днём я ўсё больш разумеў, што чалавек здольны дасягнуць гармоніі з навакольным асяроддзем. Для гэтага ён павінен навучыцца адчуваць і разумець свет прыроды, прыняць яе ўмовы, а не дыктаваць свае. Вынікі меліярацыі былі ў нас навідавоку; Валеры Дранчук распавёў гісторыю рэчкі Гавязьнянкі, якую знішчылі насуперак сэнсу і божым ісцінам. Гуляючы па наваколлі Хутара, мы любаваліся краявідамі і заадно шкадавалі, колькі ўсяго тут страчана за некалькі апошніх дзесяцігоддзяў. Яшчэ спадар Валеры паказаў нам мясціну, дзе разрастаецца рэліктавы від — белакапытнік гібрыдны, і расказаў ягоную гісторыю. Пасля асушэння пойменнага лугу белакапытнік надоўга знік з аблічча гэтай зямлі і з'явіўся толькі праз дваццаць пяць гадоў. Цяпер тэрыторыя знаходзіцца пад аховай уладаў, гэта значыць, любая дзейнасць, якая можа пашкодзіць гэтай расліне, недапушчальная. Так чалавек вяртае даўгі прыродзе, якую ён смяротна параніў.*

*І яшчэ. Побач з хутарам ёсць вялізны кар'ер; калісьці, па словах Валерыя, гэта была гара, якую звалі Раманавай. На ёй стаяў хутар Рамана Нагорнага. Хутар даўно ссялілі і гара ператварылася ў пясчаны кар'ер. Але высокае месца засталося. Я ўзышоў на яго, каб глянуць навокал, — і вачам адкрыўся цудоўны спазор. Я стаяў і спазіраў гэты свет, гэтую зямлю і нябёсы. Бачыў, як цень аблачынкі вольна і лёгка прабег па зямлі, як імкліва набраў вышыню лугавы коршак, як на поймавы зялёны дыван апусціўся бусел… Я радаваўся, што прыехаў сюды, каб адсюль, з Раманавай гары паглядзець на Беларусь, на краіну, у якой жыву і якая павінна жыць вечна.*

**Андрэй Увядзенскі,**
*16 гадоў,*
*мястэчка Бабровічы*
*Калінкавіцкага раёна*

Устойлівы хутар у цэнтры Еўропы

*На другую ноч я прачнуўся ад цішыні. Але гэта быў гукавы след самалёта. У начной цішы ён раздаўся як гром, і думаю, пабудзіў не толькі мяне.*

*А днём мы пабачылі яшчэ адзін след. Ён таксама перасякаў тэрыторыю Беларусі, але ўжо не ў паветры, а на зямлі. Спадар Валеры спыніў нашу ўвагу, калі мы ўзышлі на шырокую свежаўзараную паласу сярод поля блізу вёскі Кучынаўшчына. Яна ўразалася ў лес, цягнулася праз палі і балота, змыкаючы два гарызонты — усход і захад. Мы доўга не маглі адказаць на пытанне, што гэта. Перабралі шмат варыянтаў. Мая здагадка аказалася слушнай — тут пракладзена нітка газаправода. «Праз нашу Беларусь, па нашай зямлі цягнецца вялізны транзітны калідор таварных патокаў з Расіі ў Заходнюю Еўропу, — сказаў Валеры. — Значыць, вялікім багаццем ёсць сама наша зямля, нашая тэрыторыя». Мы былі зачараваныя тым, што ўбачылі і што пачулі.*

*І яшчэ быў сенавал, на які не так проста было патрапіць. Нарэшце падыйшла мая чарга, і мара здзейснілася. Я канчаткова паверыў, што знаходжуся на ўстойлівым Хутары… XXI стагоддзя. У цэнтры Еўропы.*

**Уладзімір Бачынскі,**
*11 клас,*
*Калінкавічы*

## Зоркі над хутарам, або Шэсць маіх уражанняў

*1.Прыгожы пейзаж хутара*
*2.Ваколіцы*
*3.Экалагічныя сцежкі*
*4.Замкавыя камяні*
*5.Сенавал!*
*6.Зорнае неба*

*А цяпер пра ўсё па парадку. Хутар размешчаны ў цудоўным маляўнічым кутку. Тут больш за сто дрэў, сярод іх векавыя — дуб, ліпы, клён. Шмат бэзу, акацый. Вялікі сад. І цэлае царства травы. Я заўважыў, як лёгка дыхаецца гэтым паветрам, якое яно тут свежае і духмянае.*

*Мы зрабілі шмат падарожжаў па навакольных мясцінах. Было сумна стаяць на дне былога ляснога возера з назвай Вінішча. Яго асушылі, каб выкарыстаць багацце донных адкладаў, вывезці іх на палі. Мне вельмі шкада возера, на якім у 30-я гады спраўляліся святы вады. Пра гэта нам распавёў мясцовы жыхар, якога мы напаткалі па дарозе.*

*Калі вярталіся на Хутар, заўважылі парачку шэрых чапляў. Яны ляцелі нізка, спрабуючы сесці. Калі селі на ўзаранае поле, мы па чарзе бралі ў рукі бінокль. Я разгледзеў у іх на галаве маленькі чубок і цяпер лёгка адрозню чаплю ад буслоў.*

*Увогуле, мне вельмі спадабалася назіраць прыроду праз бінокль. Бывала, калі спадар Валеры даваў яго мне, я ішоў на пагорак аглядаць абшары ваколіц. Аднойчы нават спазніўся на вячэру і мяне не маглі знайсці. Каб не бінокль, уражанняў было б значна менш. Я цвёрда пераканаўся, што прыгожых куткоў, падобных на гэты, засталося вельмі мала, таму іх трэба берагчы і захоўваць.*

*Што на хутары ёсць сенавал, я ведаў яшчэ да прыезду сюды і хацеў як мага на ім пераначаваць. І быў адным з першых, каму спадар Валеры гэта дазволіў, але не проста так, а «за добрыя паводзіны». Калі мы залезлі на сена і палеглі, я адчуў, як тут мякка і хораша. Пахла лугам і кветкамі, бо сена было зусім свежае.*

*Яшчэ я хачу распавесці пра два знакамітыя камяні. Адзін з іх мы пабачылі ў сцяне Мірскога замка. Ён нагадваў галаву барана. Згодна з паданнем, калі гэты камень вываліцца са сцяны, дык абрынецца і ўвесь велічны замак. А другі камень нам паказала экскурсавод Клаўдзя Якаўлеўна падчас паездкі ў Нясвіж, дзе добра захаваўся цудоўны парк князёў Радзівілаў. Калі залезці на гэты камень і загадаць жаданне, яно абавязкова збудзецца. Праўда, камень досыць высокі і ўскараскацца на яго не кожны здолее...*

*Мне спадабаліся і вечары каля вогнішча. Час ад часу я глядзеў на зорнае неба, нешта ўспамінаў або планаваў на будучыню.*

**Сяргей Андрэеў,**
*13 гадоў*
*Расія, г.Пскоў*

## Устойлівы хутары у цэнтры Еўропы

*Мне пашанцавала: я пабываў там, дзе ніколі не быў, — на сапраўдным хутары. Што такое хутар, цяпер буду ведаць не з кніжак, а з уласнага досведу.*

*Гэта цішыня і спакой ды галасы птушак у кронах дрэў.*

*Гэта пейзаж, на які можна глядзець у любую часіну дня, бо ты тут зранку да вечара.*

*Гэта жывыя фарбы, у якія прыбранае наваколле: палеткі, лугі, пасак лесу, дарога.*

*Гэта прастора нябёсаў, дзе кружаць буслы...*

*І шмат, шмат чаго яшчэ...*

### Луг

*Вяртаючыся з «Вялікай экалагічнай сцяжыны», мы выйшлі на шырокі луг. Спадар Валеры сказаў, што гэта пойма Гавязьнянкі, што мы пойдзем па яе былым рэчышчы. Мяне здзівіла густая высокая трава, у якой можна заблытацца, і безліч кветак, асабліва рамонкаў — белых і жоўтых. Побач праляцелі чаплі і селі непадалёку ад нас. Гэтае месца яны аблюбавалі невыпадкова: тут было ціха і бязлюдна. Я заўважыў, аднак, што пойменны луг на другім беразе канала свежа парэзаны плугамі аж да самага рова. Можна ўявіць, колькі птушыных гнёздаў раскідана. Парушана лугавая расліннасць. Валеры патлумачыў, што гэта супярэчыць законным нормам, што кожная рэчка або ручай павінны мець ахоўную прыбярэжную паласу. Чаму ж тады не выконваецца закон?*

### Музей мастака

*На трэці дзень мы паехалі ў Нясвіж. Я даўно марыў пабываць у старажытных мясцінах кшталту Нясвіжа. І вось мы тут, на Ратушнай плошчы, на галоўнай вуліцы з назвай Леніна, адкуль відаць Слуцкая брама і вежа замка Радзівілаў.*

*Па горадзе добра хадзіць, бо няшмат машын. Адчуваеш сябе вольна і бяспечна.*

*Музей мастака Сеўрука размешчаны ў доме, дзе ён жыў. Тут яго рэчы, палітра, мальберт. І шмат карцін. Мастак маляваў з добрым густам свой край, родны горад і яго ваколіцы. Я зразумеў, што гэта быў чалавек вялікай душы, патрыёт сваёй Радзімы. Усім спадабаліся яго пейзажы, велічныя і праўдзівыя.*

### У парку

*Пасля музея мы наведалі паркавы ансамбль Радзівілаўскага замка. Доўга хадзілі сцежкамі Марысінага парка, дзе шмат вячыстых алеяў, сажалак і маляўнічых мосцікаў. Кожны куточак парка мае сваю адметнасць, добра дагледжаны і чысты. Мы любаваліся цудоўнай прыродай, амаль не выходзячы з горада, плавалі на катамаранах і купаліся ў возеры.*

*Парк застаўся ў маёй памяці як нешта казачна незвычайнае, таму я хацеў бы, каб ён ашчадна збярогся і на наступныя пакаленні, якія будуць жыць пасля нас.*

**Сяргей Вераб'ёў,**
*16 гадоў,*
*мястэчка Бабровічы*
*Калінкавіцкага раёна*

### Не пакідае надзея

*Прыгожых мясцін на нашай зямлі яшчэ багата, аднак з кожным годам становіцца менш і менш. Гэта я чуў ад людзей, якія пажылі больш за мяне. А цяпер і сам бачу, як чалавек не задумваючыся знішчае навакольную прыроду. То аўтазапраўка будуецца, то гаражы, то кааператыўны дом, то офісная пляцоўка. І кожны раз ад гэтага церпіць жывая прырода, часцей за ўсё дрэвы, водныя крыніцы, расліннасць.*

*Мы прыехалі на Хутар, каб разам з выкладчыкамі ацаніць экалагічную сітуацыю вакол сябе, задумацца, ці туды ідзём.*

*Мясціна прыгожая, ціхая. Шмат зеляніны, старых дрэў. Нават не верыцца, што сярод поля, убаку ад дарог захаваўся такі куточак — быццам вялізны зялёны карабель. А навокал бяскрайняе поле жыта. Глянеш — вочы разбягаюцца. Далей відаць луг, лес, прысады дарог, што бягуць за гарызонт.*

*Шкада, не захавалася рэчка. Кажуць, яна была чыстая, бо паўсюль бруілі крыніцы. Цяпер можна бачыць толькі рэшткі былой красы.*

*Ёсць надзея, праўда, што многае тут адновіцца. Зарастае канал, забалочваецца пойма, вяртаецца колішняя расліннасць. Падчас заняткаў «Зялёнай школы» я з радасцю даведаўся, што гэта біялагічна актыўныя і экалагічна спрыяльныя працэсы. Ідзе назапашванне вільгаці там, дзе раней было рэчышча.*

*Усё, здавалася б, добра, калі б не мясцовая смеццезвалка. Сярод цудоўнага краявіду гэта выглядае вельмі дзіка — кучы бітага шкла і старызны, жалеззя і ўсякага пластыку. Неахайнасць і бруд. А яшчэ сустракаліся дзікія звалкі каля самай дарогі. Значыць, чалавек не ўсвядоміў сваіх памылак.*

**Аляксандр Афанасьеў,**
*СШ №3, 11клас,*
*Калінкавічы*






## Беларускі краявід.



## Святло тваёй душы

*Лета 2000*



### Фотаконкурс

Грамадская арганізацыя «Беларускі зялёны крыж» працягвае праект «Фатаграфічны майстар-клас», і для ўдзелу ў экспедыцыі, што плануецца на лета-2001, абвяшчае конкурсны набор. Старшакласнікі, што спрабуюць сілы ў фатаграфіі і жадаюць цікава правесці адзін з летніх месяцаў, павінны даслаць на адрас арганізацыі (гл. старонку 3) колькі сваіх фотаработ і звесткі пра сябе. Тэрмін -- да лютага 2001.



Фатаграфіі прэзентаваны для выпуску ўдзельнікамі экспедыціі «Фатаграфічны майстар-клас» (кіраўнік Віктар Сядых):

*Алёша Скідан.* 11 клас, Мазыр.
Браслаўшчына. Краявід.

*Юля Шарыкава.* 11 клас, Калінкавіцкі раён.
На Суле. Колішні млын. Стаўпецкі край.

Удзельнікі экспедыцыі «Хутар-2» («Школа зялёнага выдавецтва і ландшафта») разам з навуковым арганізатарам Натальляй Швед (крайняя злева), педагогам-арганізатарам Аляй Кірпічовай і аўтарам праекта Валер'ем Дранчуком (крайнія справа).





# *Як свая нам-- твая векавая туга,*
# Белавежская пушча...

*Мелодыя незахаванай спадчыны*


Фота: Уладзімір Дацкевіч (Камянюкі, Белавежская пушча)

*Запаветны напеў, далячыняў смуга,*
*У чаканні зары, што заблішча сляпушча —*
*Як свая, мне твая векавая туга,*
*Белавежская пушча, Белавежская пушча...*

*Тут забыты даўно наш прабацькаўскі схоў*
*І часамі, той кліч нашых продкаў пачуўшы,*
*Шэрай птушкай лясной з дальна-даўных вякоў*
*Да цябе паспяшаю, Белавежская пушча.*

*Ледзьве значным слядком да крыніцы брыду*
*Праз траву, трыснягі, хмызняковыя гушчы,*
*Як алені, з калень п'ю жывую ваду*
*Роднай праўды твае, Белавежская пушча.*

*Адагрэю душу ля высокіх дубоў,*
*Ды на ўцеху жывым і сляпым, і відушчым,*
*Панясу твой напеў запаветны дамоў,*
*Белавежская пушча, Белавежская пушча...*

Знайдзіце ў песнях
***сваю Беларусь!***

Фрагмент фотаздымка Яна Ежы Карпінскага

Песню ведаю і люблю з голасу Данчыка і «Песняроў». Але Данчык — хвала яму—сьпявае беларускімі словамі, тэкст вельмі файны, прачулы. Да таго ж выдатны музычны лад. Хто ніколі ня быў у Белавескай пушчы, міжволі захоча туды паехаць. Я ня быў і паехаў. І там пачуў гэтую песьню вельмі натуральнаю— як родная гаворка ў матчынай хаце. На жаль, песьню зрэдку пачуеш сярод людзей, у кампаніях. Асабліва па-беларуску. Гэта не зусім пераклад, нешта самастойнае і значнае. Як і сама мелёдыя, сьпеў. Ровень Пушчы. Хай доўга жыве Пахмутава, хай вечна жыве Пушча, хай зелянее-жыве наш Дом— Беларусь.

***Падзяліўся***
***22-гадовы Улад Бохан, Менск***

## У наступных нумарах

**Людзі хочуць на хутары.**
Заказнік пад прыцэлам меліяратараў.
**Ці ёсць у Беларусі партыя «зялёных»**
Жан Жак Русо і Белавежская пушча — погляд біёграфаў.
**Сметнікі ХХ! стагоддзя. Погляд з Прагі**
Вялікая вада. Ёсць праект «паварота» Нёмана
**Зялёны фронт**











Фота: Міхал Козел (Тураў)

Яўген Крамко

## Да зімы недалёка

Увесь дзень над Нёманам плылі грудкаватыя хмаркі. Паміж імі часам выглядала скупое сонца. Рэдзенькія промні на момант мянялі фарбы лесу, асвятлялі мяккую зяляніну хваін і ялін.

Калі сонца хавалася, лес цямнеў, надыходзіў сум і неспакой. Толькі паміж дрэў зелянелі баравы мох і курцінкі брусьнічніку. На версе гонкіх хваін ганарліва трымаліся густыя кроны, пасылаючы на мох свае цені.

На світанку выпагадзілася. Завітаў першы марозік. Ён высыпаў іней на аер і асаку, застудзіў спакойную ваду. Як толькі з-за лесу выглянула сонейка, промні заблішчэлі на тоненькім лядку.

На лазовым кусце, што замацаваўся над вадою, сядзела шэрая птушачка ў чорным берэце і выводзіла журлівую-журлівую песеньку.
Да зімы ўжо было
недалёка.

Няхай жыве і пасецца ***беларуская птушка бусел!***

**Працяг** са стар.15

Кароткі прыпынак на рацэ Бебж, якая нагадала мне родны Нёман. Шлях, што застаўся ззаду, наводзіў на першыя філасофскія разважанні



тыса, ён мусіць глянуць у пашпарт і даць раду, маўляў, такі парадак. Паказалі сядзібу і назвалі імя: Браніслаў Шумчык.

Для знаёмства паказваю пашпарт і тлумачу намеры. Пан Браніслаў – гадоў 35, сярэдняга росту селянін – спяшаецца запэўніць, што ўсё гэта яму зразумела і праблемы з начлегам няма. Аднак вырашыў заручыцца падтрымкай жонкі: што скажа яна?..

У Шумчыкаў ладны цагляны дом і вялізная цагляная абора, дзе рохкала ды круціла рогам немалая жыўнасць.

Нарэшце, гаспадар ставіць кропку, прапануе мне весці пад павець ровар ды ісці ў хату піць гарбату. Я паставіў свой транспарт з доляй апаскі, бо паветка збоку аборы была без дзвярэй. Але тут жа супакоіў сябе тым, што мой ровар не будзе адзінай каштоўнасцю побач з разнастайным гаспадарскім інвентаром, схаваным не ад чалавека, а выключна ад неба. Стаяў тут і трактар з рэзкім пахам саляркі, і два прычэпы, ды яшчэ шмат іншага дробнага начыння, на якім лёгка ўгадваўся ўвесь агратэхнічны ланцужок земляробчых клопатаў. Мне ж было і радасна і дзіўна, што ўся гэта мехгаспадарка належала адной фермерскай сям“і, аднаму двару гаспадара-прыватніка. Ад тэхнічнай базы маіх дзядоў-уласнікаў засталася ў поўнай ацаленасці толькі арфа, ўсё астатняе ляжыць закапанае ў зямлі на гумнішчы ці даўно скончыла век бязладнага калектыўнага ўжытку.

Калі зайшоў у хату, гаспадыня ўжо гатавала ваду, паспела нарэзаць памідораў, накроіць хлеба. Да вячэры запрасіла па-свойску, звыкла, нібы суседа. І толькі хлапчукі 9 і 12 гадоў з цікавасцю сачылі за мной. Прыстойна і гжэчна падзячылі за пачастунак; час, які заставаўся да сну, бавілі з ахвярным цярплівым коткам ды ўпрыглядку да нечакага госця «з-за Буга».

Пані Крысціна – так звалі гаспадыню – паклала нарэшце рукі на калені і, адчуўшы маю цікавасць да жыцця польскай сельскай сям“і, паскардзілася на вялікую гаспадарку і “ценжкую” штодзённую працу. Браніслаў, забавіўшыся недзе ў суседа, нарэшце вярнуўся на добрым падпітку, перапрасіў нас і прапанаваў “усе праблемы” абмеркаваць заўтра.

Першыя промні новага дня мне ўжо свяцілі ў дарозе. Я жадаў шчасця сям“і, якая дала мне першы прытулак пасля незвычайнага, поўнага хваляванняў дня.

Крысціна, калі знаёміліся, на маю беларускасць адрэагавала з мясцовай звыкласцю: “Росі і Беларусь – адно і тое ж”. Аднак Браніслаў тут жа ўдакладніў, што еднасць з Расеяй была ды распалася. Да ягонага каментару я не мог нічога дадаць. Адно заўважыў сам для сябе, што гэты фермер газеты чытае. Ён выявіў дасціпнасць і ў пытанні экалагічнага падтэксту маёй вандроўкі. Ровар як сродак міжнароднага турызму, стасункаў краін-суседзяў, а таксама аздараўлення навакольнага асяроддзя адразу выклікаў ягоную цікавасць і разуменне актуаліяў, якія за гэтым стаяць.

А яшчэ, напачатку, як толькі парукаліся і я назваўся беларускім “дзеннікажам”, Браніслаў спытаў: “Якую інфармацыю пан мае збіраць: эканамічную, палітычную, ці?..” “Экалагічную”, – пачуў у адказ. На што цвёрда зазначыў: “У нас, пан, большы плюс”. Што ён трымае на ўвазе і які грунт мае тут ягоная ўпэўненасць, я так і не даведаўся. Аднак пазіцыя Браніслава міжволі, асацыятыўна ілюстравалася маім свежым асабістым назіраннем, што ўразіла як маланка. У ваколіцах Кастамалотаў зазірнуў у лясок, што з абодвух бакоў ахінаў дарогу. І... Божухна! На чорнай плешыне папялішча валяўся ўпаковачны ўтыль, надзвычай даступны сваімі назовамі: “Освежитель воздуха “Майский”, бляшанкі з-пад “Молока”, 8 бутэлек “Рояла”. “Божухна... – зноў уразіўся, усаромлены, я. – Маіх родных ваколіц ім ужо мала, двухногія шкоднікі дабраліся і сюды”.

У этнаэкалагічнай панараме гэтае збудаванне займае не самае першае месца... калі не ўлічыць, што ў духмяным пухавіку азярода я няблага пераспаў ноч. На самым досвітку, праўда, пабудзілі сабакі з бліжэйшага хутара. Але брахалі яны не ў мой бок.



INSTYTUT POLSKI

*Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць Інстытуту польскаму ў Менску за падтрымку ў ажыццяўленні публікацыі.*

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

Фота аўтара











## Фотарэпартаж

Як папоўніць збяднелую дзяржаўную казну ці, больш дакладна, другі, некантраляваны ценявы бюджэт краіны, былы галоўны гаспадарнік адміністрацыі А.Лукашэнкі Іван Ціцянкоў цяпер можа распавесці на шматлікіх высечках Белавежскай пушчы, — наглядна і досыць пераканальна. Доўгія чатыры гады Пушча была аб'ектам ягонай увагі і хцівага вока. Напэўна, не хутка вернецца Іван Іванавіч да пракаветных шатаў, да выцерабленых дзялянак. Мо, на той час дабудуецца і царква з адмысловага пушчанскага брусу, якая расла-будавалася за Іванам Іванавічам хутка і спрытна, а цяпер — запусцела. Калі ўсё гэта разам здарыцца—і царква дабудуецца, і былы прэзідэнцкі казначэй заедзе сюды з візітам пакаяння,— мы станемся сведкамі, як Іван Іванавіч будзе замольваць тут свае цяжкія грахі.

**Працяг тэмы.**
**Пачатак** на старонцы 6



Белавежская пушча. Верасень, 2000.



Белавежская пушча. Верасень, 2000.



Нікога дома не было, за кожным маім рухам сачылі пільныя вочы аўчаркі.

Яшчэ адна новабудоўля ў Белавежскай пушчы — сядзіба і дом для былога дырэктара нацыянальнага парка (новага яшчэ не прызначылі) Васіля Патапавіча Жукава, які аддана выконваў усе «супер-запаведныя» загады і быў непасрэдна далучаны да распродажу прыродна-сыравінных багаццяў краіны. Цяпер ён «кіруе» ў Мінску і сам выдае загады. А мясцовыя жыхары паглядаюць у бок ягонай сядзібы, бо Васіль Патапавіч, кажуць, хоча прыватызаваць маёмасць. Гэта будзе файны падарунак сённяшняй улады аднаму з выканаўцаў злачынных метадаў гаспадарання ў Вялікім лесе!

Фота: Валеры Дранчук.

Верасень, 2000. Вёска Камянюкі, Камянецкі раён

# Дарога, што вядзе ў Сад

## *Аднаўляецца сядзіба народнага селекцыянера Івана Сікоры*



Фота: Аляксей Мацюш (Мінск)

***Вёску Малыя Алашкі ведаюць пакуль што далёка не ўсе, пераважна краязнаўцы, для каго любая пасіянарная асоба выклікае імпэт і цікавасць. Таму падобна на тое, што хутка гэтая мясціна ў Шаркаўшчынскім раёне зробіцца знакамітай. Зрэшты, ўсё залежыць ад мажлівасцяў ды настрою людзей, якія ўзяліся ўзнавіць тут сядзібу-сад Івана Сікоры(1885—1958) — селекцыянера і садавода, народнага асветніка, земляка-алашкаўца. Сёлета ягоную 115-ю гадавіну ад нараджэння адзначалі на Яблычны Спас. Задумка файная! Можна ўпэўнена сказаць, што такая традыцыя будзе жыць.***

З узнаўленнем дома-сядзібы Івана Сікора, яблыневага сада і гадавальніка, арыгінальнага кветніка, выдатнай асабістай бібліятэкі садавода-аматара, пэўна ж, знойдуцца дзесяткі ягоных паслядоўнікаў. Гэтак жа, як і ён, яны захочуць убачыць Бацькаўшчыну не ў сметніках, а ў чысціні і квецені садоў. І штораз, прыгадваючы імя Сікоры, мы будзем мець справу з праблемай пераканаўчага станоўчага прыкладу, на якім неабходна выхоўваць людзей, падвышаць іхнюю свядомасць, тымчасам і экалагічную. Гэта вельмі актуальна для грамадства на фоне так званай масавай культуры, бездухоўнасці, п'янства і камерцыялізацыі, бязроднасці і злачыннасці. Ужо мала каго абурае прыродаспусташальная дзейнасць — вынішчаецца краса асяродкаў, а наўзамен вырастаюць звалкі і сметнікі.

Іван Сікора жыў у роднай вёсцы. Яго сядзіба, паводле літаратурных крыніц і ўспамінаў людзей, была сапраўдным райскім куточкам. Сваімі рукамі ён заклаў унікальны кветнік, дзе раслі ружы розных колераў і адценняў, дзесяткі гатункаў вяргінь, цюльпанаў, іншых раслін. Разводзіў Сікора бэз і ляшчыну, без якіх немагчыма ўявіць ягоны сад.



Такім памятаюць слыннага алашкаўца-садавода, хто яго ведаў, пры канцы жыццёвай дарогі. Але Дарога Івана Сікоры вядзе ў ягоны Сад.

Здымак з архіва Ады Райчонак (в.Германавічы, Шаркоўшчынскі раён)

Аднак сусветную славу энтузіясту з Малых Алашкаў прынёс гатунак яблыкаў, які ён сам вывеў. Пасля смерці садавода вучоныя назвалі гэты гатунак «Памяць Сікоры».

Плён руплівага вяскоўца быў варты ўдзячнай памяці: селекцыянер апрабаваў на сваёй дзялянцы за 500 гатункаў яблыняў, 100 — груш, за 70 — сліў.

Справа, якой быў шчыра аддадзены алашкаўскі садавод-асветнік, хутка знаходзіла прыхільнікаў. Ягоны прыклад атрымаў шырокае прызнанне і дзейны водгук. Тое, што Шаркаўшчынскі раён і сёння ў садах, ёсць сведчаннем нямарных намаганняў Сікоры. Ён шчодра дзяліўся не адно гатункамі, але і багатымі ведамі. Яго асабістая бібліятэка налічвала 12 тысячаў кніг, дом селекцыянера не міналі знакамітыя беларускія пісьменнікі і навукоўцы. Пра яго напісаны кнігі і шмат артыкулаў. Знаёмства з Сікорам трымалі Янка Купала і Максім Гарэцкі, Максім Танк і Міхаіл Прышвін.

Пасля смерці садавода-асветніка ягоная сядзіба прыйшла ў заняпад, але застаўся дом і сад, дзе шмат гадоў кружыў творчы дух Івана Сікоры. Колькі гадоў таму ў суседняй хаце быў створаны музей Сікоры. Аднак ён мала чым адрозніваўся ад шэрагу культурных асяродкаў правінцыі і не прыдбаў лепшага лёсу, як існаваць фармальна. Можа, таму, што ачольвалі музей жонкі старшыняў калгасаў, а не людзі з прызваннем.

На сёння сітуацыя прыкметна змяняецца ў лепшы бок. Дом Сікоры завешчаны сыну Віктару з мэтай стварэння тут музея-сядзібы. Плануецца адрадзіць кветнік-сад, адрамантаваць хаціну, закласці гадавальнік, — зрабіць усё так, як было пры гаспадары.

Азірнуўшыся навокал, няцяжка зразумець, як гэта ўсё патрэбна: для пашырэння экалагічный асветы ды пацвярджэння старой ісціны, што не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек месца.

**Таццяна Марозава**









# Б*удзьце багаслаўёныя вусны, што прамаўляюць па-беларуску*

V.D. Фотаплакат

## Мы прапануем…

*У чэрвені мы з сястрычкай адпачывалі ў бабулі. Раніцай сядалі на ровар і ехалі аглядаць наваколле, бо мелі школьнае заданне на лета. Едучы праз лес, дзе два гады таму збіралі суніцы, пачулі едкі пах «хіміі». Па зялёным полі збажыны віднеліся сляды трактарных колаў — ішло апырскванне раслін супраць шкоднікаў. Сястра сказала, што на краі лесу, асабліва які мяжуе з полем, актыўна селяцца птушкі. Вось яны і «частуюцца» гэтым калгасным дустам. Пра здароўе прыроды, выходзіць, ніхто не падумаў.*

*Мы прапануем забараніць выкарыстанне «хіміі» там, дзе блізка лес, дзе гэта можа дрэнна адбіцца на біялагічным багацці нашага краю.*

**Віктар Багатка,**
*8 клас.*
*г.Баранавічы*

## Казка Докшыцкага лесу

*Гэтым летам я гасцяваў у Докшыцкім краі і быў нечакана здзіўлены яго багатай прыроднай спадчынай.*

*Асабліва парадаваў лес, яловахваёвы, месцамі вельмі стары, вячысты. Я сустракаў дрэвы, якія дагэтуль бачыў хіба на малюнках: галіны ў шэра-зялёным, дзе-нідзе сінюватым моху. Не дзіва, што ў такім лесе будуць ахвотна жыць і воўк, і ліса, і лось, не кажучы пра зайца або дзіка. Мне расказвалі, што водзяцца тут і досыць рэдкія ў Беларусі птушкі — змеяед, беркут, цецярук. І хоць на вочы яны мне не трапілі, я вельмі ўражаны гэтым фактам. А вось буслоў бачыў даволі часта. Толькі ў адной вёсцы налічыў ажно тры буслянкі. Мне здаецца, гэта добры знак.*

*Не менш уразілі і тамтэйшыя вёскі. У кожнай сядзібе свая асабістая студня, сям-там стрэхі хатаў трымаюць на сабе дранку. У блізкіх ваколіцах захаваліся балоты і балацінкі, крыніцы, пагоркі, нават маляўнічыя горы, што вельмі аздобна складваюцца ў мясцовы ландшафт.*

*І докшыцкі лес, і сельскія ваколіцы застануцца ў маёй памяці як сведчанні захаванай спадчыны ў скарбонцы беларускіх каштоўнасцяў.*

**Алесь Хмыз,**
*17гадоў, Мінск*

## Думка, з якой нельга не пагадзіцца

*Шаноўны рэдактар!*

*Вельмі ўхвальна, што Ваша выданне заўважыла артыкул Яраслава Раманчука і дало магчымасць выказацца яго апанентам. Добра і тое, што паралельна з контраргументамі прыведзены і «аргументы» — ці не ўвесь дабор сп. Раманчука.*

*Аднак ёсць і шкадаванне: ніхто з аўтараў, пры ўсёй слушнасці іхніх довадаў, не пашукаў кроплі рацыі ў таго ж Раманчука. А ён, на маю думку, падае неблагую падставу заўважыць, якім баластам абкладзены так званы зялёны рух Беларусі. Вам не здаецца, што яго таму і няма, сапраўднага руху, што ініцыятыву перахапілі хітруны і функцыянеры з багатай бюракратычнай спадчынай.*

*Вазьміце грамадскую арганізацыю «Белая Русь». Доўгі час яе ачольваў былы камсамольскі лідэр С.Дарожка, цяпер выкладчык. Выдатны ўзор «ціхіх паводзін» дома, на вачах улады, і разам з тым, паглядзіце, як гэтая арганізацыя ўкаранілася ў міжнародныя экалагічныя структуры, дзе на яе ўскладалі надзеі. Але ж надзеі, як бачым, даўно пахаваныя, што самае горкае. Наўзамен маем вузкае кола «сваіх» людзей, якія прыўлашчылі дзесяткі ці сотні грантаў, але ані не пашырылі рух у* ***абарону*** *навакольнага асяроддзя ад гвалту апошніх гадоў. Адказнасці ж -- ніякай.*

*Не буду называць іншыя прыклады, іх вельмі шмат. Я. Раманчук не раскрыў сутнасці, падаў гэта як тэзіс і тэндэнцыю, магчыма, не ведаючы, што за гэтым стаіць.*

**Пётр Сільвановіч,**
*28 гадоў (сам з Мядзела, часова пражываю ў Мінску)*

***У 2001 годзе*** з прычыны непрадказальнасцяў, навязаных дзяржаўнай бюракратыяй у выглядзе перарэгістрацыі і інш., газета часова выключае сябе з падпіскі і будзе распаўсюджвацца праз Белдрук, сетку кнігарняў ды іншыя альтэрнатыўныя каналы. Падрабязнасці ў наступным нумары.

Зялёны фронт

## Больш празрыстасці і адкрытасці!

Анонс.

18-19 лістапада Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацый ладзіць сустрэчу-дыялог на тэму **«Грамадскія экалагічныя арганізацыі: публічнасць дзейнасці перад пагрозаю дээкалагізацыі краіны».**

На думку арганізатараў Сустрэчы, у краіне недастаткова задзейнічаны грамадскі фактар у пытаннях аздараўлення навакольнага асяроддзя, захавання нацыянальнай прыроднай спадчыны, воляўяўлення людзей у форме пратэстаў (пікетаў, шэсцяў і інш.). Пры гэтым захоўваецца становішча, калі няўрадавыя экалагічныя арганізацыі не зацікаўленыя ў публічнасці сваёй дзейнасці, абмяжоўваюцца справаздачамі перад грантадаўцамі і фактычна закрытыя ад шырокай беларускай грамадскасці (не блытаць з дзяржаўным наглядам).Тым часам, ход выканання «зялёных» праектаў, цікавыя грамадскія ініцыятывы і іх рэалізацыя ёсць самім жа рэзервам развіцця масавага экалагічнага руху, стымулам і прыкладам для тых, хто гатовы ўключыцца ў барацьбу за здаровае навакольнае асяроддзе, але яшчэ не ўключыўся.

На сустрэчу-дыялог запрашаюцца прадстаўнікі фондаў і грамадскіх арганізацый, вучоныя і журналісты, якія пішуць на тэму навакольнага асяроддзя. **Т/факс 206-59-09.**

Гонар маю!

## «Белыя плямы» прэсавай службы МНС

Уласная інфармацыя.

Міністэрства па надзвычайных сітуацыях не задаволіла просьбу газеты «Белавежская пушча» прадставіць для публікацыі картаграфічны матэрыял прэвентыўнага кшталту. Пасля пісьмовага звароту ў пачатку года выданне ў асобе заснавальніка і галоўнага рэдактара зрабіла некалькі напамінкаў праз супрацоўнікаў прэсавай службы. Даявілося ў рэшце рэшт пераканацца, што гэтая служба задарма, як кажуць, хлеб народны есць. Былі абяцанні, але ініцыятыва рэдакцыі засталася няўважанай.

Газета, тымчасам, давала ведамству добры шанец, бо трапляе ў школы, асяродкі выхавання і навучання, а таксама ў кожную, за невялікім выключэннем, раённую інспекцыю прыродных рэсурсаў. Праігнаравана не столькі прапанова газеты, колькі *права чытачоў і грамадскасці на засцерагальную інфармацыю, звязаную перш-наперш з радыяцыйным забруджваннем тэрыторыі.*

Рэдакцыя, вядома, не звяртала б на гэта ўвагі (бюракратаў заўжды хапала) і не кранала б гэтае пытанне, калі б інфармацыя падобнага кшталту не заставалася такой неабходнай грамадству і, тымчасам, такой дэфіцытнай і калі б на гэтым прыкладзе не прасочвалася «ўстойлівасць» дзяржаўнага разумення праблемы.



Галоснасць

## Кліматычныя анамаліі замоўчваюцца

Уласная інфармацыя.

Трэцяя дэкада жніўня двойчы папоўніла спіс анамальных з `яў надвор` я ў Беларусі. Пранесліся два разбуральныя ўраганы, у выніку якіх ёсць чалавечыя ахвяры, пашкоджаны сотні людскіх сялібаў, грамадскіх пабудоў, шматлікія камунікацыі.

На жаль, стыхіі, што апошні час досыць часта наведваюцца ў Беларусь, прычыняючы ахвяры і разбурэнні, не знаходзяць адпаведнага водгуку ў грамадстве, амаль цалкам замоўчваюцца сродкамі масавай інфармацыі (за выключэннем кароткіх паведамленняў). Не падаецца, у прыватнасці, шырокая разгорнутая ацэнка спецыялістаў-эколагаў, кліматолагаў, сіноптыкаў, а таксама службаў надзвычайнага рэагавання, медычнай дапамогі, статыстыкі і гэтак далей. Беларускае тэлебачанне, напрыклад, паказала «экстрэмальныя» сюжэты ў заключнай частцы **«Панарамы»** — галоўнай інфармацыйнай перадачы дня, менавіта на 19-й і 30-й хвілінах адпаведна 21 і 23 жніўня. Доўжыліся яны якую пару хвілінаў і падаваліся накшталт хронікі з далёкіх кантынентаў. Тымчасам сюжэты, звязаныя з расійскім падводным чоўнам «Курск», займалі ці не трэць інфармацыйнага выпуску на самым яго пачатку.

«Адсутнасць «панарамнасці» і ўсебаковага аналізу анамальных кліматычных здарэнняў на Беларусі і іх наступстваў сведчыць пра надзвычайную палітызаванасць беларускіх СМІ ва ўмовах нарастаючага супрацьстаяння ў грамадстве,—лічыць доктар медыцынскіх навук, адзін з лідэраў Беларускай экалагічнай партыі зялёных *Аляксей Мікуліч.* —Гэтым, бадай, тлумачыцца і няўвага да айчынных сацыяльных катаклізмаў. На фоне штучнага інтэграцыйнага ажыятажу жыццё беларусаў, іхнія «беды і бедкі» спіхваюцца на задворкі масавых інфармацыйных крыніц, аплочаных, між іншым, з кішэні беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Грамадства ж, у рэшце рэшт, не дабірае такім чынам досведу гатоўнасці да анамаліяў, якія ўсё больш пагражаюць нам небяспекай, і застаецца слаба з»арыентаваным у глабальных экалагічных працэсах, звязаных з прыродаразбуральнай дзейнасцю чалавека на зямлі».

## Адказу пакуль няма

Напамінак з рэдакцыі

Своеасаблівую «гатоўнасць» да анамаліяў дэманструюць жыллёвыя эксплуатацыйныя службы, бязлітасна выразаючы зялёнае багацце двароў і прысадаў («БП», №2, 2000). Газета накіравала крытычны матэрыял у Мінпрыроды Беларусі. Трэці месяц адказу няма.









Беларусь -- Расія

## Інтэграцыя і... дээкалагізацыя

Уласная інфармацыя.

Дзіўна выглядаюць рапарты беларускіх чыноўнікаў ад аховы прыроды і так званых парламентарыяў пра уніфікацыю экалагічнага заканадаўства Беларусі і Расіі. Не толькі таму, што працэс гэты наскрозь абстаўлены палітычнымі падпоркамі і выглядае заўчасным, але і з увагі на факты дээкалагізацыі Расіі.

Ва ўрадзе суседняй дзяржавы, напрыклад, ліквідуюцца структуры, адказныя за стан і ахову прыроды, Міністэрства адукацыі намагаецца выключыць экалагічную адукацыю з курса сярэдняй школы, Міністэрства ўнутраных спраў скасоўвае муніцыпальную экалагічную міліцыю, ФСБ бяздоказна абвінавачвае экалагічныя арганізацыі ў пасобніцтве шпіянажу і пераследуе экалагічных актывістаў, а ў Федэральным Сходзе не спыняюцца спробы перагледзець і аслабіць дзеючае заканадаўства па ахове прыроды.

Пра гэта гаворыцца ў Звароце Усерасійскай надзвычайнай канферэнцыі па ахове прыроды, якая прайшла ў Маскве.

Які новы шчодрасці прынясе беларусам «уніфікацыя заканадаўства» на хвалі інтэграцыі? Поўную гарантыю, што расійскі газ будзе торыць шлях у Еўропу праз нашы лясы, палі і балоты – без перашкод...

Фота: Валеры Дранчук, студзень, 2000.

Нашы айчынныя «інтэгратары», якія стрымгалоў, не разбіраючы дарогі, рушылі ў Маскву «уніфікавацца» пад тамтэйшае заканадаўства, трапілі ў звычайнае несамавітае становішча.

Замест таго, каб паглыбляць і ўдасканальваць законы «айчыннай вытворчасці» на карысць здаровага асяроддзя, беларускімі ўладамі запушчаны зусім іншы механізм — «з пункту погляду ўніфікацыі» ды «ў рамках саюза двух дзяржаў» і г.д. (выразы з афіцыйных крыніц службовага карыстання). Да чаго гэта можа дайсці, спрагназаваць няцяжка— да поўнай двухбаковай дээкалагізацыі.

«Засталося няшмат,—заўважыў нашаму карэспандэнту супрацоўнік Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, які папрасіў не называць яго прозвішча.—Сёння галоўнае прыродаахоўнае ведамства хутчэй існуе **для апраўдання антыэкалагічнай дзейнасці дзяржавы ў сферы прыродакарыстання,** чымся жорсткага кантролю над ёю».

SOS!

## Што маем -- не захоўваем...

BUNDmagazin.

**Вада.** Кожны пяты жыхар Зямлі мусіць піць забруджаную ваду, што ёсць галоўнай прычынай смерці і захворвання. З-за гэтага і брудных сцёкавых крыніц штодзень памірае 25 тысячаў чалавек. Недахоп чыстай пітной вады забірае яшчэ 15 млн дзяцей штогод. Праз 25 гадоў блізу дзвюх трацінаў усіх людзей будуць пакутаваць ад недахопу чыстай пітной вады.

**Глеба.** Запусценне ворыўных земляў стала прычынаю апустынівання 20 адсоткаў глебы (пераважна ў засушлівых рэгіёнах). У сярэднім страта ўраджайнасці глебы сёння датычыць 40 адсоткаў агульнай паверхні Зямлі. Прычыны — пераўгноенасць, засаленне, выкарчоўка дрэў і празмерны выпас.

**Лясы, відавая разнастайнасць.** Каля 80 адсоткаў першабытных лясоў Зямлі ўжо зніклі альбо знаходзяцца пад пагрозай. Усяго захавалася яшчэ 35 млн кв. кіламетраў лясоў, палова — у трапічнай зоне, другая палова — у сярэдніх шыротах. Каля 39 адсоткаў з іх знаходзяцца пад пагрозай з-за высечкі альбо правядзення горназдабыўных работ. У Еўропе і Паўночнай Амерыцы плошча лясоў пачала пакрысе расці, але галоўным чынам за кошт беднай на віды монакультуры.

Homo sapiens

## Смачна есці і больш рухацца

Уладзя Ляская.

Кажуць, паправіцца шмат лягчэй, чым пасля пахудзець. Пра гэта не варта забывацца, бо спакусаў з'есці чарговы ласунак заўсёды шмат. А патрэбная сутачная дастатковасць складае ў сярэднім 2800 кілакалорыяў (жанчыны) і 3200 ккал. (мужчыны).

Тым часам 2 шакаладныя цукеркі (25 г) «дораць» нам 110 ккал, шклянка малака або маленькая булачка — 105, два пірожныя і кубачак салодкай кавы ці чаю — 400 ккал.

Скінуць легкадумна набытыя калорыі напраўду складана. Каб уявіць, якія гэта павінны быць намаганні, варта прывесці колькі прыкладаў энергетычных выдаткаў у ккал. за 1 гадзіну пры выкананні розных відаў дзейнасці. Скажам,

| | |
|---|---|
| калі стаім | 105 |
| шпацыруем | 200 |
| хутка ідзём | 300 |
| бяжым | 570 |
| плаваем | 500 |
| падымаемся па лесвіцы | 1100 |

А цяпер параўнайце. І — добрага ўсім здароўя! Між іншым, восень – досыць прыдатная часіна года для шпацыраванняў і кросаў. Галоўнае, знайсці сваю сцежку.

## Экафундацыя 2000

Варта ўсім падумаць ды так абзадачыцца, каб шырокі свет ідэнтыфікаваў Беларусь не з рогам раз'ятранай злыгі, а з прыгожай рагатаю галавою белавежскага зубра ў квяцістым вянку першароднае флоры

Фундатар экасюжэта — таварыства з абмежаванай адказнасцю **«Інтраст»**, г.Брэст